*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 47 (733) 7 СНЕЖНЯ 2005 г.

## Беларусы не забываюць пра Слуцкі збройны чын



Да 85-х угодкаў Слуцкага збройнага чыну творчай інтэлігенцыяй Беларусі падрыхтаваны сур'ёзны падарунак. Скульптар Міхась Інькоў, той самы, які стварыў помнікі Ларысе Геніюш і Сафіі Слуцкай, закончыў макет помніка слуцкім паўстанцам. Кіраўніком праекту выступіў Анатоль Белы.

Помнік уяўляе сабой кампазіцыю з выявай паўстанца і шасціканцовым крыжом. Па акружнасці пастамента размешчаны надпіс: "Тым, што пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына".

Далейшы лёс помніка бачыцца няпростым. Нават, калі знойдуцца грошы на адліўку, устанавіць яго ў Слуцку будзе даволі складана. Але вочы баяцца, а рукі робяць... Ці тое яшчэ можа беларускі дух?

*Яраслаў Грынкевіч.*

## 135 гадоў з дня нараджэння Фердынанда Рушчыца



Фердынанд Рушчыц нарадзіўся ў 1870 г. у Ашмянскім павеце Віленскай губерні. У 1891 г. ён падаў прашэнне ў Пецярбургскую акадэмію мастацтваў. Спачатку ён займаўся ў майстэрні І. Шышкіна, а потым у А. Куінджы. Займаўся Рушчыц вельмі ўдала. Яго здольнасці высока цаніў І. Рэпін. Пасля заканчэння Акадэміі Рушчыц разам з Куінджы падарожнічаў па Германіі і Францыі.

Карціны Рушчыца экспанаваліся на выставах у Пецярбургу і Варшаве. Яны прынеслі мастаку славу. У 1904 г. Ф. Рушчыц быў запрошаны на пасаду прафесара жывапісу ў Варшаўскую школу прыгожых мастацтваў. У 1907-1908 гг. ён жыў у Кракаве і займаў пасаду прафесара Акадэміі прыгожых мастацтваў. У 1908 г. вярнуўся на радзіму ў Багданава, дзе жыў да Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г.

У 1919 г. Рушчыц прымаў удзел у аднаўленні Віленскага універсітэта, дзе кіраваў кафедрай жывапісу, быў прафесарам. У 1921 і 1929 г. ездзіў у Парыж. Працуючы старшынём камісіі па ахове помнікаў старажытнасці, Рушчыц часта наведваў руіны замкаў у Крэве. Міры, Лідзе ды іншых мясцінах Беларусі, збіраў звесткі аб гістарычных падзеях, што адбываліся там, і рабіў замалёўкі, эцюды. Па іх ён стварыў некалькі запамінальных твораў (напрыклад, пейзаж "Крэва").

Памёр Фердынанд Рушчыц у Багданаве ў 1936 г., пахаваны на мясцовых могілках.

## Угодкі Уладзіміра Караткевіча і Слуцкага паўстання ў ТБК у Вільні

26 лістапада ў ТБК адзначылі 75-я ўгодкі з дня нараджэння Уладзіміра Караткевіча - паэта, пісьменніка, Вялікага Патрыёта Бацькаўшчыны. Залу ўпрыгожыў партрэт пісьменьніка, выпушчаны ТБМ імя Ф. Скарыны. А зала тавараства гэтым разам была перапоўнена, на мерапрыемстве прысутнічалі студэнты Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта. Агляд жыцця і творчасці Ул. Караткевіча зрабіла Л. Мілаш, пасля прысутныя паглядзелі відэафільм "Рыцар і слуга". Час бяжыць няўмольна хутка. Здаецца нядаўна адзначалі 70-годдзе, група актывістаў ТБК здзейсніла вандроўку на Радзіму Ул. Караткевіча ў Оршу, потым у Віцебск, наведала магілу пісьменніка на Усходніх могілках у Менску, перачытвалі яго творы, кнігі даследчыкаў Адама Мальдзіса і Анатоля Вераб'я. Як для Караткевіча М. Багдановіч быў прыкладам маральнай чысціні, духоўнай велічы, так для нас ужо сам Караткевіч ёсць прыклад патрыёта, любові і служэння Бацькаўшчыне. Па яго творах можна вывучаць гісторыю Беларусі.

Так супала, што ў гэтым годзе адначасова адзначалі і 85-я ўгодкі Слуцкага збройнага чыну. Аб падзеях 20-х гадоў расказаў старшыня ТБК Хведар Нюнька, зачытаў прывітанне ад прэзідэнта БНР Івонкі Сурвілы, а напрыканцы прагледзелі фільм па творы В. Быкава "На чорных лядах".

Так у ТБК у Вільні адзначыла дзве знакамітыя даты, якія пакінулі след у гісторыі Беларусі і маюць служыць прыкладам для моладзі, таму і студэнты гуманітарнага універсітэта яшчэ доўга не разыходзіліся, абмяркоўвалі, спрачаліся і пра творчасць і асобу Уладзіміра Караткевіча і пра мужнасць паўстанцаў, а потым працягвалася размова пра беларускія справы ў Вільні. Мерапрыемства мела выхаваўчае значэнне для моладзі, яно застанецца ў памяці нашчадкаў.

*Леакадзія. Мілаш, г. Вільня.*



*На здымку: У зале ТБК. Фота аўтара.*

## У Гарвардзе пачалі выкладаць беларускую мову

Сёлета ўпершыню ў Гарвардскім універсітэце чытаецца курс па беларускай мове. Складальнік курсу і выкладчык – славяназнаўца прафесар Курт Вулгайзер.

- Да мяне звярнулася аспірантка Цэнтра па вывучэнні Расіі і Ўсходняй Еўропы імя Дэвіса, - кажа Вулгайзер, – яна хацела заняцца вывучэннем беларускай мовы. Гэта звязана з яе даследаваннем. Яна вывучае маладзевыя рухі ў Расіі, Беларусі і Украіне. Яна ўжо валодае расейскай мовай, але хацела вывучаць беларускую і украінскую мовы, каб праводзіць інтэрвію ў Беларусі і Украіне.

Тут, у Гарвардзе, я заўважыў, апошнім часам часцей звяртаюцца да мяне на гэты конт. Спачатку аспірантка, якая зараз вучыцца, тады аспірантка з нашай кафедры, якая збіралася перакласці вершы Вальжыны Морт на ангельскую мову. Ёсць у Гарвардзе пэўны ўздым, але пакульцяжка сказаць, што па ўсёй краіне нешта падобнае можна заўважыць. А што тычыцца беларусістыкі ўвогуле, то ёсць пэўны ўздым.

Яшчэ адным сведчаннем росту гэтай цікавасці стаў нядаўні гарвардскі сымпозіюм пад назвай "Мастацтва, нацыянальная ідэнтычнасць і палітыка Беларусі". Як лічыць прафесар Вулгайзер, сімпозіюм паспрыяў не толькі пашырэнню ведаў пра Беларусь сярод студэнтаў і выкладчыкаў, але і больш прыхільнаму стаўленню да беларускай тэматыкі на славянскай кафедры і ў Цэнтры па вывучэнні Расіі і Ўсходняй Еўропы імя Дэвіса.

*Алеся Сёмуха.*

**УВАГА!**

8 верасня ў 18.00 у сядзібе ТБМ на Румянцава, 13 у Менску адбудзецца вечарына прымеркаваная да 85-х угодкаў Слуцкага збройнага чыну. У праграме вечарыны прэзентацыя кнігі доктара гістарычгных навук, прафесара Анатоля Грыцкевіча "Слуцкае паўстанне 1920 года".



# У векавечнай Бацькаўшчыне клёны Нячутна пачынаюць аблятаць...

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

***Раман Лубкіўскі, Львоў***

### КАРАТКЕВІЧ НА БЕЛЫМ КАНІ

Не цар-царэвіч,
не кароль-каралевіч —
Рыцарскія даспехі,
срэбнае стрэмя звініць —
Прыехаў да Львова...
Хто?
Караткевіч.
Сам Караткевіч на белым кані.
Спалі яшчэ прадмесці, як нехаць,
А ён ось маеш! Узяў ды прыехаў.
Узняўся вясёлы вэрхал,
Неверагодны рух:
Снег сьшаўся, быццам з меха,—
Падвей наладжваў пацеху,
Падвей паладжваў пацеху
З падмогаю завірух!

Такога шчодрага дару
Не знаі даўно львавяне
(З часу, як Іван Грозны
Сюды сабалёў пасылаў?).
— Дык вось.— казаў Караткевіч,—
Дарую Львову, Рамане,
Гэтае срэбнае ззянне...

Быццам жыццё аддаваў...

Бязмерныя, дзіўныя скарбы
У зачарованай скрыні...
У што яны пераліты
І дзе хаваюцца, дзе?

Можа,
якому будучаму
Нашчадку Скарыны,
Друкару Фёдараву
Спадчына перападзе...

(Хоць бы адбельваць лаперу!)

...Над Рынкам ціша завісла,
Над Рынкам ціша загусла,—
Сярэдняевечная?
Вечная?
Вызначыць не бяруся.
Сёння сівыя стагоддзі
Узмахнулі крыламі бусла,
Слова
Русі Чырвонай
Азвалася
Белай Руссю...

...Помню яго аблічча,
болем цяжкім парытае,
Быццам хто выразаў з дрэва
ці выбіў з граніту яго...
Іпоў у старыя брамы
і фарбаю дрэварыту
Замацаваны навечна
на аркушы белых снягоў.
А Львоў
надоўга разжыўся
З таго міфічнага меха:
Снягі, высокія, белыя,
На горад ішлі штодня.
...На белым кані прыехаў...
На белым капі ад'ехаў?
Не знаю.
Здаецца,
за повад
моўчкі вывеў каня.

*(Пераклад з украінскай мовы Васіля Зуёнка.)*

***Рыгор Барадулін***

### ВАЛУН КАРАТКЕВІЧА

Сізіфава табе вядома праца.
Ты, колькі жыў, варочаў валуны,—
Каб пачалі сыны
За розум брацца,
Каб апрытомнелі твае сыны.

Няўдзячнасці глухімі валунамі
Табе плацілі добрыя дзядзькі
За тыя, што даверліва лунаці
За хмарамі вякоў,
Твае радкі.

І ён,
Валун знямелага ўтрапення
І плачу нашага,
На грудзі лёг
Тваёй магіле.
Сосны прарыпелі,
Жагнаючы зеленарука лёх.

Як возьме
Бог
Сваіх даўгоў папірус,
Згадае і аб нашай старане:
Там Беларусь,
Дзе Караткевіч вырас.
І адпачне
На гэтым валуне.

***Да, партрэта Уладзіміра Караткевіча***

Дзіця з вачыма празарліўца,
З душой пакрыўджанай на свет
Зірне — і будзе фраза ліцца,
Нібыта клёкат праз арліцу,
Як несупыннасць праз Тыбет.

Адчай з лрарочымі вачыма,
Дзе ўзорацца шляхоў шлякі,
Дэе з небам раіцца Радзіма,
Дзе немагчымае магчыма,
Дэе дзівакуюць дзівакі.

Ахвярца верны неспакою
Над плынню крэўнае ракі.
І мова матчынай рукою
Яго сумленне трапяткое
Благаславіла на вякі.

***Уладзімір Някляеў***

### ХАДОК

*Уладзіміру Караткевічу*

Біклага, кульба, торба па плячах —
Па нашым часе
выгляд маскарадны.
Нікому і ні ў чым не падуладны
Хадок ідзе, таму што выбраў
Шлях.

З дубровы ў бор, з нізіны на грудок
Ідзе хадок,—
а бэйбусы, барыгі
Крычаць:
«Гэй ты! Дзе крыж твой? Дзе вярыгі?»
Хадок ідзе. Таму што ён
Хадок.

Ён выбраў шлях — і ўжо не зверне ў бок
Ад ісціны, вядомае спрадвеку:
Амаль усё, што трэба чалавеку,—
Скарынка хлеба ды вады глыток.

Амаль усё. Амаль, амаль, амаль...
Але не ўсё, калі камяк у горле,
Не ўсё, не ўсё — калі душу агорне
Па незабыўным непазбыўны жаль.

Па кім? Па чым? Ці не па ўсіх і ўсім:
Па каласах тых, што на ўзмежку поля,
Па тым — што праўда,
і па тым — што воля,
Па самый любым, самым дарагім,
Па ўсім, па ўсім — да слёз, да слёз, да слёз
Па самым крэўным у чужынным свеце,
Што княжым ветрам прашуміць у вецці
На спеўных вежах полацкіх бяроз
Ці паляўнічым рогам прагудзе
Ля Турава — і адгукнецца ў Крэве...
Хай шлях кружны, нібыта кольцы ў дрэве,
Бясконцы шлях. Але хадок
Ідзе.

Усё сваё з сабой нясе... Яму
Таго даволі, болып чым неабходна,
Каб зратаваць сасмяглых і галодных.
Каго? Яму вядома адпаму.

Ідзе хадок. Над ім дажджыць, сняжыць,
Яму не выйсці з гэтай кругаверці.
Ён ведае так мала, каб памерці.
І гэтак многа ведае, каб жыць.

***Алег ЛОЙКА***

### МАЛЕННЕ ДА ЎЛАДЗІМІРА КАРАТКЕВІЧА

*На Беларусі Бог жыве...*
*У. КАРАТКЕВІЧ*

Мой дружа, ты ж вавек не хлусіў...
Малю: даруй мне, старына!..
Не Бог жыве на Белай Русі,
Не Бог жыве, а Сатана.

Шчаслівы ты, пгго не дажыў ты
Да дня, калі з Дняпра ўваскрос
Не дух, каторым даражыў ты,
А вораг беларускіх рос.

Ды што раса, ды што бярозы,
Што сосны ды вячысты дуб,
Яму нішто ні слёзы-росы,
Ні Край, што беларусам люб;

Нібы абраны беларусам,
Ёа лесціць дываны адны,
Што разлягаюцца абрусам
Хрыстапрадаўцам стараны...

Як верыў, веру тваёй песні,
І вера гэтая — без дна...
Ты Богам быў, так уваскрэсні,
Каб не кірмашыў Сатана!..

***Эдуард Акулін***

### ПАМЯЦІ УЛАДЗІМІРА КАРАТКЕВІЧА

**І**

Караткевіч — кароткі век,
накананваны жорсткім лёсам.
Мора поўніцца болем рэк,
трансфармуецца гора ў слёзы.

Караткевіч — бясконцы век.
Чорны ветах павіс над краем...
А па венах ускрытых рэк
ценем лёгкім — ладдзя Адчаю.

**ІІ**

Цяжкі пошчак імшары поўніць,
ды зласвесна праміж аблокаў
загарэлася раптам поўня,
нібы зрэнка ў дрыкгантавым воку.

Гэта памяці нашай спраты
хтось нарэшце разрынуць здужаў.
Цяжкі пошчак. Спяваюць латы.
Паляванне на нашы душы!..

***Вальдко Каяінін***

### ЦЫГАНСКІ ДЗЯКУЙ УЛАДЗІМІРУ КАРАТКЕВІЧУ

Аршыца там усё цячэ,
І ветрык кволіцца яшчэ,
Адкуль свой не спыняе рух
Ягонай сілы вечны дух.

Паветра перакажа зноў,
Як неслі коні цыганоў —
Імпэт цыганскі сціпшць мог
Адно што сам Вялікі Бог.

Разлогі віцебскай зямлі,
Шагалу пэндзаль вы далі
І Караткевіча радкі
Багаслявілі на вякі.

Усе спяшайцеся сюды!
Пакайцеся за ўсе гады,
Што вы не шанавалі спраў
Таго, каго вам Бог паслаў!

*Пераклад з цыганскай мовы Рыгора Барадуліна.*

***Міхась Скобла***

### БАЛАДА ПРА ПАДАРОЖНАГА

*У. Караткевічу*

Адклаў тэрміновыя спр:вы
І ў свет з-пад абжытай с:рахі
Пайшоў, не шукаючы славы,
Забраўшы з сабою грахі.



Навокал крычалі: «Пакайся!..»
А ён, нібы сам сабе бог,
З парожняй дарожнаю кайстрай
Шукаў занядбалых дарог.

І травы густыя і церні
Залапілі колішні брук...
Святлелі мінулага цені
Ў застрэшшы зажураных рук.

Вялі праз сухмень і паводкі
Шляхі, ды не ў Рым, не ў карчму.
А ноччу маўклівыя продкі
Ішлі спавядацца яму.

І слухала сэрцам, вачыма
Зямля беларуская ўся
І цяжкія крокі Вашчылы,
І словы свайго Кастуся.

Ні здрады, ні краты, ні страты
Іх волю зламаць не маглі.
Скажыце, а хто вінаваты,
Што іх не шануем магіл!!

...На звон старажытнае вежы
Збіралася веча... Пастой!..
І зноў падавалася свежай
Зямля пад капліцай пустой.

Нядобра ад мрояў трывожных.
Наступнікаў водгалас дзе!
Прыгонны вякоў, Падарожны
Праз Вечнае поле ідзе.

**Уладзімір ПАПКОВІЧ.**
**Віцебск.**

Мой народзе!
Няўжо ты глухі і нямы?
Ці ты штосьць запаветнае тоіш?
Пачытай Караткевіча - праўды тамы.
Мо душэўныя раны загоіш...
Ен не дбаў пра сябе - а няўтульна ж было!
-Ад улад не даброт дамагаўся.
Ен душой не прымаў ліхадайнае зло
І з нягоднікамі змагаўся.
І застаўся як прыклад, як зорка для нас,
Каб не згінулі мы ў паняверцы.
Моўчкі крочым праз
змрочны і здрадлівы час
З Караткевічам - нашым - у сэрцы.

***Іван Чыгрын***

## Без Караткевіча праз Оршу

Балючыя рэкі...
Балючыя рэйкі...
Балючая Орша...

Нашто мне вас бачыць?
Нашто мне вас чуць?
А рэйкі гамоняць...
А колы бягуць...

Балючы Валодзя...
Няпросты партрэт!
Высокі, як свет.
Балючы вагон.
Балючы перон.

Бязмежнасць прастору,
Імклівы разбег...
Вясёлы, як снег.
Шчаслівы, як смех.


№ 47 (733) 7 СНЕЖНЯ 2005 г. наша слова

*Леанід Лыч*

# Дзесяцігоддзе вялікіх нацыянальных стратаў

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Прэзідэнцкая вертыкаль смела можа паставіць сабе ў вялікую заслугу, што за апошняе дзесяцігоддзе ёй удалося ўсе адказныя за стан народнай адукацыі, культуры, навукі ўладныя структуры, афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі, дзяржаўны ідэалагічны апарат у належнай ступені укамплектаваць асобамі антынацыянальнай арыентацыі, якія пры выкананні сваіх службовых абавязкаў лічаць за норму карыстацца толькі рускай мовай. Датычыць гэта і элітнага кадравага апарату ўсіх звёнаў міністэрства адукацыі і культуры, чаго, дарэчы, не назіралася за бальшавіцкім часам, калі Беларусь па ўсіх параметрах залежала ад Маскоўскага Крамля. Ігнараванне высокім кіраўнічым кадравым апаратам гэтых міністэрстваў беларускай мовы прычынілася да рэзкага зніжэння яе прэстыжнасці сярод асноўнай масы педагагічнай і мастацкай інтэлігенцыі. У выніку сярод яе ў дзесяткі разоў больш не толькі пасіўных, але і актыўных носьбітаў рускіх культурна-моўных каштоўнасцяў, чым беларускіх. Няцяжка зразумець, якую велізарную шкоду ўжо прычыніла і будзе прычыняць нашаму народу такая інтэлігенцыя сваёй працай па-за беларускім нацыянальна-культурным полем. Усяго гэтага не назіралася б, калі б сама дзяржава свядома не збочыла з нацыянальнага шляху і не пайшла на рашучае ўмацаванне рускіх пачаткаў ва ўсіх сферах духоўнага жыцця краіны.

У поўнай ступені адказнасць невысокага рангу сучасных палітыкаў і шараговай інтэлігенцыі за дапушчанае і па іх віне рэзкае паглыбленне працэсу развалу этнічных асноў беларускага народа зніжае адсутнасць у гэтых катэгорый людзей усялякай магчымасці атрымаць па дадзенай праблеме сур'ёзную аб'ектыўную навуковую інфармацыю. У ёй у дзясяткі разоў больш хлусні, чым праўды. Паколькі не ўсе з такіх палітыкаў і інтэлігентаў канчаткова адрынуліся ад уласнай нацыянальна-культурнай спадчыны, то пры валоданні ў поўным аб'ёме праўдзівай інфармацыяй пра негатыўныя, крайне небяспечныя з'явы ў ёй (спадчыне), яны маглі б па-іншаму ставіцца да вельмі абвостранай на сёння праблемы захавання беларускага народа як самабытнага этнасу.

На аб'ектыўнае, бесстароннее абмеркаванне нацыянальнага, культурна-моўнага становішча на старонках афіцыйных літаратурных крыніц, часопісаў і газет, па радыё і тэлебачанні накладзена найстражэйшае табу, і таму афіцыйнымі структурамі не праводзяцца па такой праблеме навукова-практычных канферэнцый, сімпозіюмаў, "круглых сталоў". Ствараецца ўражанне, што ў краіне адсутнічаюць усялякія праблемы ў сферы нацыянальна-культурнага жыцця. Толькі дзе-нідзе ў афіцыйным друку прамільгне пра яго кароценькая інфармацыя, прычым абавязкова ў пазітыўным плане. Здаецца, што нават Кампартыя Беларусі дазваляла больш крытычна выказацца на адрас яе тварэння - меліярацыі, чым сучасная "дэмакратычная" ўлада на сваё любімае дзіця - русіфікацыю. І ўладу ой як слухаюць галоўныя рэдактары дзяржаўных газет і часопісаў. Недарэмна за апошняе дзесяцігоддзе амаль ніхто з іх не зняты з гэтых пасадаў. А калі хто-небудзь і пакінуў крэсла галоўнага рэдактара, дык гэта толькі з прычыны пераводу на больш высокую пасаду.

Неяк павярхоўна падыходзіць да асвятлення крайне вострай на Беларусі сучаснай нацыянальнай праблемы незалежны, дэмакратычны друк. А прыкладаў жа адваротнага характару ў нас хапае. Тут я маю на ўвазе газеты "Наша Ніва" (лістапад 1906 - жнівень 1915 г.), "Вольная Беларусь" (чэрвень 1917 - кастрычнік 1918 г.), "Беларускі шлях" (сакавік - жнівень 1918 г.). Без гэтых перыядычных выданняў у нас наўрад ці расла б , як грыбы пасля дажджу, колькасць беларускамоўных навучальных школ на занятай нямецкімі інтэрвентамі тэрыторыі, ці была б утворана і разгарнула сваю дзейнасць Беларуская Народная Рэспубліка.

Не вызначаюцца глыбінёй аналізу сучаснага нацыянальнага становішча даволі частыя ў нас з'езды , канферэнцыі, сімпозіюмы, "круглыя сталы", што праводзяцца незалежнымі грамадска-палітычнымі, культурна-асветніцкімі арганізацыямі, таму ў нас няма навукова распрацаванай Канцэпцыі выратавання беларускага народа ад этнічнага заняпаду, таму мы так здорава прайгравалі у час прэзідэнцкіх выбараў, выбараў у Нацыянальны сход Рэспублікі Беларусь, абласныя і раённыя (гарадскія) Саветы дэпутатаў. Часта прыходзіць у галаву думка: ці не адстаём мы ў плане тэарэтычнага асэнсавання нацыянальнай праблематыкі ад сваіх папярэднікаў, што займаліся ёю ў першыя тры дзесяцігоддзі мінулага стагоддзя? Калі гэта так, не здымаю і з сябе адказнасці.

Словам, з прыцягненнем увагі шырокіх колаў палітыкаў і інтэлігенцыі рознага сацыяльнага становішча да развязвання бязмежна абвостранай нацыянальнай праблемы непачаты край. Абсалютная бальшыня людзей гэтых элітных катэгорый грамадства не задзейнічана ў нацыянальна-адраджэнцкі працэс, адсюль адсутнасць усялякіх пазітыўных вынікаў у выратаванні беларускага народа ад растварэння ў рускай культурна-моўнай стыхіі.

Было б памылковым у архізаганнай нацыянальнай палітыцы Рэспублікі Беларусь зусім не бачыць расійскага ўплыву. Палітыкі і ідэолагі нашай ўсходняй суседкі выдатна разумеюць, што з умацаваннем пазіцый рускага фактару ў культурна-моўным жыцці Беларусі намнога лягчэй будзе праводзіць тут свой курс, а пры неабходнасці і цалкам падпарадкаваць яе сваім інтарэсам. Гэта нашы дзяржаўныя дзеячы і аддадзеная ім частка інтэлігенцыі ніяк не могуць уцяміць азбучнай ісціны, што народ, пазбаўлены магчымасці нармальна развівацца на сваім прыродным культурна-моўным грунце, не здольны на вялікія здзяйсненні ні ў эканоміцы, ні ў палітыцы, ні ў сферы духоўнай дзейнасці, ніколі не будзе вызначацца высокім узроўнем нацыянальна-дзяржаўнай свядомасці і пры поўным збегу акалічнасцяў выявіць поўную абыякавасць да страты палітычнай незалежнасці ўласнай краіны і маўкліва пагодзіцца жыць з тым народам, чыімі духоўнымі каштоўнасцямі ўжо не ў першым пакаленні карыстаецца. Такіх прыкладаў у сусветнай практыцы нямала. Толькі вось бяда, беларуская палітычная і ідэалагічная эліты не хочуць лічыцца з імі і з зайздроснай энергіяй працягваюць нарошчваць магутнасці рускага фактару ў нацыянальна-культурным жыцці краіны за кошт раўналежнага зніжэння ролі ў ім ўсяго беларускага, бо іншага варыянту правядзення такога стратнага, небяспечнага курсу проста не існуе ў прыродзе. Не верыцца, што гэтага не ведаюць дзяржаўны чыноўніцкі і ідэалагічны апараты. Ведаюць, але, відаць, вельмі вялікае жаданне зліквідаваць у духоўным жыцці беларусаў усё тое, што адрознівае іх ад рускіх.

Сучасная інтэнсіўная, буйнамаштабная дэградацыя нацыянальных асноў беларускага народа, што яшчэ раз сцверджу, можна вытлумачыць толькі правядзеннем адпаведнай мэтанакіраванай дзяржаўнай палітыкі, бясконца радавала сваімі разбуральнымі вынікамі яе самых галоўных праваднікоў і ідэолагаў. Без дасягнення такой дэградацыі ў прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі, несумненна, не было б падстаў не раз публічна заяўляць: "Белорусы - это те же русские". Падобныя словы даволі часта гучалі з вуснаў высокіх іерархаў праваслаўнай царквы Беларусі. Усё, як у горшыя часы за Расійскай імперыяй.

Здаровай нацыянальнай самасвядомасці дзяржаўныя дзеячы і ідэолагі ніколі не дазволілі б сабе радавацца, што іх тытульны народ не ёсць самабытная этнічная супольнасць, што гэта ўсяго толькі нейкая падробка да народа суседняй краіны. Нуль цана тым дзяржаўным і ідэалагічным структурам, якія з даўно прызнанага самім жыццём адметнага ад іншых беларускага народа пераўтвараюць яго ў выніку культурна-моўнай гібрыдызацыі ў народ суседняй краіны. Трэба не радавацца, ставіць сабе ў заслугу такую этнічную метамарфозу, а шукаць эфектыўныя шляхі для вываду краіны з зацяжнога нацыянальна-культурнага крызісу і ўсяляк дамагацца таго, каб беларус ганарыўся сваёй беларускасцю, а не тым, што ён падобны на рускага. Няўжо так цяжка высокаадукаваным мужам уцяміць, што беларусаў у рускамоўнай культуры цывілізаваны свет не ўспрымаў і ніколі не ўспрыме за самабытны народ. Іх заўжды будуць атаясамліваць з рускімі. У такіх варунках і беларуская дзяржава не будзе ўспрымацца, як якое-небудзь адмысловае сувэрэннае палітычнае ўтварэнне. З такім прыніжаным стаўленнем да нас не раз даводзілася сутыкацца беларускім палітычным і культурным дзеячам, аднак яны ці не могуць ці не жадаюць зразумець, што такое нябачанне ў беларусах самабытнага этнасу ёсць вынік арганізацыі ледзь не ўсяго іхняга ўнутранага жыцця паводле рускага ўзору. З ім мы едзем і за мяжу. Усё было б зусім інакш, калі б мы і дома і ў гасцях моцна трымаліся сваіх нацыянальна-культурных і моўных стандартаў. Адступаць ад апошніх толькі з-за таго, што яны ігнаруюцца дзяржавай, не ёсць сур'ёзнае апраўданне для каго б там ні было і тым больш для нашай шматлікай інтэлігенцыі. Ад дзяржавы трэба самым рашучым чынам патрабаваць павагі да нацыянальных духоўных каштоўнасцяў, а не падтрымліваць яе палітыку самавырачэння ад апошніх. Цывілізаваныя народы не робяць такога этнічнага самавынішчэння.

Праблема нумар адзін ёсць і застаецца нават у самай неагляднай перспектыве - гэта лячэнне закаранелай моўнай хваробы беларускай нацыі. Да таго часу, пакуль у краіне будзе рэй весці дзяржаўнае двухмоўе, пры якім роднаму слову яе карэннага насельніцтва адведзена ўсяго толькі нулявая роля ў грамадскім жыцці, пакуль руская мова будзе заставацца адзінай паўнапраўнай у вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай школе і займаць панавальнае становішча ў сферы прафесійнай культуры, пакуль з-за неабмежаванага распаўсюджвання рускай культуры цяжка будзе дыхацца беларускай культуры, датуль нельга будзе ўсур'ёз гаварыць пра наш палітычны суверынітэт, этнічную самабытнасць беларускага народа. У такіх выпадках яму не ўстаць з кален на выпрастаныя ногі , не вызваліцца ад ролі быць сурагатам рускай нацыі. Наша першачарговая задача памяняць у краіне месцамі беларускі культурна-моўны фактар з рускім ; тады знікнуць усе праблемы з выратаваннем яе тытульнага народа ад русіфікацыі.

Сучаснае звыродлівае дзяржаўнае двухмоўе няўмольна паглыбляе надзвычай небяспечны для лёсу беларускага народа падзел на дзве разнамоўныя часткі, што з бегам часу можа прывесці да ўтварэння на тэрыторыі нашай краіны дзвюх далёка не сяброўскіх у сваіх узаемадачыненнях нацый: цалкам натуральна сфармаванай беларускай беларускамоўнай і штучна змайстраванай асімілятарамі беларускай рускамоўнай. Не думаецца, што такі этнічны вынік, выкліканы цяжкімі наступствамі травеньскага рэферэндуму 1995 года, адыграе станоўчую ролю ў лёсе беларусаў як у роднай, так і рускай мовах. Таму, пакуль не позна, высокія дзяржаўныя ўлады павінны карэнным чынам змяніць стаўленне да моўнага пытання і ўзнесці роднае, а не навязанае беларускаму народу - раней звонку, а апошнім дзесяцігоддзем і знутры - яго сапраўды роднага слова на такую вышыню, на якой знаходзіцца роднае слова тытульнай нацыі ўсіх краін, у тым ліку і Расіі. Бясспрэчна, такое падуладна толькі дзяржаве, якая ў сваёй нацыянальнай палітыцы максімальна ўлічвае інтарэсы тытульнага народа, даражыць яго этнакультурнай самабытнасцю. Стагоддзямі мы не мелі і сёння не маем такой дзяржавы. Адсюль нашы нацыянальныя беды.

У моўным плане нашу дзяржаўную сістэму ніяк нельга назваць беларускай з'явай. У моц гэтага ўсё менш дапасоўваецца да яе і наша сучаснае грамадскае жыццё. Практычна няма аніякіх спадзяванняў на захаванне беларускай этнічнай існасці пры такой нацыянальнай палітыцы дзяржавы. Суровая рэчаіснасць не дазваляе нацыянальна - самасвядомым беларусам бяздзейнічаць, спачываць на лаўрах. Наш гістарычны абавязак рана ці позна стварыць беларускамоўную ўладу. Толькі не праз рэвалюцыю (братазабойных войнаў нам пад завязку хапіла!), а дэмакратычным шляхам. Трэба нацыянальна выхоўваць народ, бо дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі ніколі не зоймуцца гэтай праблемай. Разбудзіць яго ад летаргічнага сну паспрыяюць і характэрныя на сёння ўсёй сусветнай цывілізацыі прагрэсіўныя рухі па захаванні культурна - моўнай разнастайнасці на планеце Зямля.

У гэтай святой справе на нашым баку будзе заўжды стаяць такая аўтарытэтная міжнародная арганізацыя, як ЮНЭСКА. Абвешчаны ў канцы 2002 года Генеральнай Асамблеяй ААН дзень 21 траўня Сусветным днём культурнай разнастайнасці ў імя дыялогу і развіцця павінен стаць для нацыянальна-самасвядомых колаў беларускага народа важнай нагодай для мабілізацыі сіл на пераадоленне цяжкіх наступстваў культурна-моўнай русіфікацыі. Не верыцца, што ў час, калі сусветная цывілізацыя так рашуча выступае за захаванне культурнай разнастайнасці народаў, беларусы працягнуць салодкую, бесклапотную спячку і будуць задавальняцца незайздроснаю роляю служыць этнічным гноем для суседняга народа.





*Праект*

# План дзейнасці

**Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны" на 2006 год**

| | | |
|---|---|---|
| **1. Арганізацыя працы камісіяў ТБМ** (праводзіць пасяджэнні 1 раз на месяц) | На працягу года | Старшыні камісіяў ТБМ |
| **2. Асветніцка-педагагічная праца з бацькамі, дзеці якіх пойдуць у д/с і 1-ыя класы ў 2005-2006 навучальным годзе.** | На працягу года | Бацькоўскі камітэт, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| **3. Стварэнне інтэрнэт-рэсурсаў дыстанцыйнага навучання на беларускай мове.** | На працягу года | Часовая інфармацыйная камісія, С. Кручкоў |
| **4. Арганізацыя курсаў па вывучэнні беларускай мовы** | Студзень-чэрвень, верасень-снежань | Сакратарыят, В. Раманцэвіч, абл. структуры ТБМ |
| **5. Супрацоўніцтва з уладнымі структурамі па выкананні Пастановы Міністэрства адукацыі Беларусі (№ 48 ад 27.08.2001г.) "Праграма дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі", Закона "Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь", каардынацыя сакратарыятам збору подпісаў грамадзян з патрабаваннем адкрыцця беларускамоўных навучальных устаноў.** | На працягу года | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| **6. Супрацоўніцтва з Дзяржстандартам па пытанні выкарыстання дзяржаўнай беларускай мовы ў інструкцыях і на ўпакоўках тавараў, якія маюць абарачэнне на тэрыторыі Беларусі.** | На працягу года | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| **7. Праца з прадпрыемствамі па ўкараненні беларускамоўнага афармлення выпусканай прадукцыі.** | На працягу года | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| **8. Работа па пашырэнні кола падпісчыкаў і чытачоў на "Наша слова", "Новы час" і інш. беларускамоўныя газеты і часопісы.** | На працягу года | Сакратарыят, першасныя суполкі ТБМ |
| **9. Правядзенне семінараў па тэме "Я магу жыць лепей".** | На працягу года | Сакратарыят (Л. Дзіцэвіч) |
| **10. Арганізацыя і правядзенне семінара па гісторыі Беларусі.** | Студзень – чэрвень | Сакратарыят |
| **11. Адзначыць наступныя даты:** | | |
| - 85 гадоў як быў заснаваны Беларускі музей у Вільні; | | |
| - 30-годдзе Дома літаратара; | | |
| - 375-годдзе заснавання Куцеінскай друкарні і выдання ў ёй буквара Спірыдонам Собалем; | | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| - Міжнародны дзень роднай мовы; | 21 лютага | |
| - 90-годдзе "Беларускай хаткі"; | 12 сакавіка | У. Кошчанка |
| - 100-годдзе заснавання выдавецтва "Загляне сонца ў наша ваконца" (выдаць кішэнны каляндарык): | травень | |
| - 100-годдзе выхаду першага нумара газеты "Наша доля"; | 14 жніўня | Сакратарыят |
| - 100-годдзе выхаду першага нумара газеты "Наша Ніва" (выдаць кішэнны каляндарык). | 23 лістапада | Сакратарыят |
| **12. Ушанаванне памяці:** | | |
| - Яўхіма Карскага, 145 гадоў; | 3 студзеня | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ, рэдакцыя газеты "Наша слова" |
| - Генадзя Каханоўскага, 70 гадоў; | 8 студзеня | |
| - Тадэвуша Касцюшкі, 260 гадоў; | 4 лютага | |
| - Міколы Улашчыка, 100 гадоў; | 14 лютага | |
| - Канстанціна Тышкевіча, 200 гадоў; | 17 лютага | |
| - Кандрата Крапівы, 110 гадоў; | 5 сакавіка | |
| - Усевалада Ігнатоўскага, 125 гадоў; | 19 красавіка | |
| - Змітрака Бядулі, 120 гадоў (выдаць кішэнны каляндарык); | 23 красавіка | |
| - Міколы Ермаловіча, 85 гадоў; | 29 красавіка | |
| - Янкі Журбы, 125 гадоў; | 1 траўня | |
| - Барыса Сачанкі, 70 гадоў; | 15 траўня | |
| - Івана Луцкевіча, 125 гадоў; | 28 траўня | |
| - Элізы Ажэшкі, 165 гадоў; | 6 чэрвеня | |
| - Цёткі, 130 гадоў; | 15 ліпеня | |
| - Сяргея Новіка-Пеюна, 100 гадоў (марка-канверт); | 27 жніўня | |
| - Яўгена Ціхановіча, 95 гадоў; | 25 лістапада | |
| - Максіма Багдановіча, 115 гадоў; | 9 снежня | |
| - Міколы Равенскага, 120 гадоў. | 17 снежня | |
| **13. Адзначыць юбілейныя даты сяброў ТБМ:** | | |
| - Васіля Сёмухі, 70 гадоў; | 18 студзеня | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ, рэдакцыя газеты "Наша слова" |
| - Ніла Гілевіча, 75 гадоў; | 30 верасня | |
| - Уладзіміра Някляева, 60 гадоў; | 11 ліпеня | |
| - Генадзя Бураўкіна, 70 гадоў; | 28 жніўня | |
| - Эрнеста Ялугіна, 70 гадоў; | 19 лістапада | |
| - Генадзя Цыхуна, 70 гадоў; | 30 кастрычніка | |
| - Анатоля Вярцінскага, 75 гадоў; | 18 лістапада | |
| - Міколы Гіля, 70 гадоў; | 15 кастрычніка | |
| - Вячаслава Чамярыцкага, 70 гадоў; | 22 ліпеня | |
| - Янкі Сіпакова, 70 гадоў; | 15 студзеня | |
| - Івана Чыгрына, 75 гадоў; | 10 красавіка | |
| - Васіля Якавенкі, 70 гадоў; | 5 траўня | |
| - Віктара Шматава, 70 гадоў. | 9 траўня | |




У крамах Беларусі з'явіўся каляндар "Родны край" на 2006 год. Каляндар выйшаў у выдавецтве "Беларусь" накладам 10 000 асобнікаў.

Каляндар выдадзены павялічаным фарматам, якім ён выдаваўся першыя чатыры гады (1991-1994), што дазваляе змясціць значна больш інфармацыі.

## АЎТАПАРК ЗАГАВОРЫЦЬ ПА-БЕЛАРУСКУ

Інфармацыя на аўтавакзале і аб'явы прыпынкаў у некаторых гарадскіх маршрутах у Баранавічах у хуткім часе будуць гучаць па-беларуску.

Да такога рашэння прыйшлі 16 лістапада падчас сустрэчы кіраўнікі РУП "Аўтобусны парк № 2", творчага згуртавання "Святліца" і сябароў гарадской арганізацыі ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны".

Па словах начальніка аб'яднанага аўтавакзала Іосіфа Бубена, у хуткім часе аб'явы дыспетчара аб адпраўленні прыгарадных і міжгародніх аўтобусаў будуць акрамя рускай мовы дубліравацца і па-беларуску. Дарэчы, у бліжэйшы час у зале чакання аўтавакзала будзе ўстаноўлены відэаманітор, на якім уся інфармацыя для пасажыраў будзе з'яўляцца і на роднай мове: пералік паслуг аўтавакзала, заклікі быць асцярожнымі і інш.

***Руслан Гарбачоў.***
***г. Баранавічы.***

## У Познані збіраюць подпісы супраць "Deutche Welle"

Беларускі культурна-асветніцкі цэнтр у Познані пад кіраўніцтвам Віталя Воранава сумесна з Незалежным Студэнцкім Задзіночаннем (Познань) распачынае збор подпісаў супраць вяшчання радыё "Deutche Welle" ў Беларусь па-руску. Збор подпісаў будзе спалучаны з інфармацыйнай акцыяй вакол вяшчання ў Беларусь і нямецкага падыходу да беларускага пытання. Плануецца правядзенне акцыі ва ўсіх вышэйшых навучальных установах Познані і збору больш чым тысячы подпісаў, якія будуць пераслaныя ў Еўрапейскую Камісію і ў офіс "Deutche Welle"

***Віталь Воранаў.***

## *Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, "Наша слова"!*

Шаноўнае спадарства, ідзе падпіска на першае паўгоддзя 2006 года.

Не прамініце скарыстацца з магчымасці падпісацца на самую беларускую газету нашай краіны.

Будзьце з намі, і вы будзеце ў цэнтры падзей, якія адбываюцца ва ўсім беларускамоўным спектры Беларусі і замежжа.

РП - 1

**Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь**

**АБАНЕМЕНТ** на газету/часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

Колькасць камплектаў **1**

На 2006 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | X | X | X | | | | | | |

**Каму**
(прозвішча, ініцыялы)
**Куды**
(адрас)
(паштовы індэкс)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

на газету/часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

| **Кошт** | падпіскі | 7620 руб. | Колькасць камплектаў | **1** |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | | |

На2006 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | X | X | X | | | | | | |

**Каму**
**Куды**
(прозвішча,ініцыялы)
(адрас)
(паштовы індэкс)



№ 47 (733) 7 СНЕЖНЯ 2005 г. наша слова

# ПРЫНЦЫПЫ БЕЛАРУСКАЙ АРФАГРАФІІ, АРФАГРАФІЧНЫЯ ВАРЫЯНТЫ

Арфаграфія – сістэма правіл перадачы вуснай мовы на пісьме. У кожнай мове арфаграфія мае нармалізацыйнае значэнне. Пісьмо больш кансерватыўнае ў параўнанні з вуснай мовай. Традыцыйнасць пісьма забяспечвае трывалае, стабільнае становішча вуснай мовы. У аснове рацыянальнага правапісу – адзінства прынцыпаў і паслядоўнасць напісанняў. Гісторыя станаўлення беларускай арфаграфіі адлюстроўвае складаны пошук зручнай і рацыянальнай перадачы гукаў на пісьме магчымасцямі графікі.

Фанетычны і марфалагічны прынцыпы з пачатку фармавання новай беларускай арфаграфіі – XIX ст. – усталяваліся як галоўныя. Правапіс галосных у канчатках назоўнікаў, прыметнікаў, займеннікаў, лічэбнікаў, дзеясловаў, іншых часцін мовы заснаваны як на фанетычным, так і на марфалагічным прынцыпах. У беларускай арфаграфіі выкарыстоўваюцца яшчэ дыферэнцыяльны і традыцыйны спосабы напісання. Супярэчнасці сучаснай беларускай арфаграфіі выкліканы няправільным разуменнем двух яе асноўных прынцыпаў. Фанетычны прынцып не дае літаратурнаму правапісу дастатковых паслядоўнасці і чытэльнасці. Правапісная рэформа 1933 г. абмежавала дзеянне фанетычнага прынцыпу, але ён застаўся вядучым. Упершыню ў гісторыі беларускай літаратурнай мовы пастанова Саўнаркома БССР 1933 г. надала арфаграфічным і граматычным правілам абавязковасць.

Фанетычны прынцып пісьма заключаецца ў адпаведнасці напісання вымаўленню, ён пакладзены ў аснову беларускага правапісу. Гэта склалася гістарычна. У рускай арфаграфіі, у адрозненне ад беларускай, пануе марфалагічны прынцып. Украінская арфаграфія, як і беларуская, заснавана на тых жа двух прынцыпах – фанетычным і марфалагічным. Некаторыя тэксты, напісаныя па-беларуску, захоўваюць дыялектныя асаблівасці.

У шырокім сэнсе слова варыянтамі беларускай арфаграфіі можна лічыць тарашкевіцу (дарэформенны правапіс) і сучасную, "пасляэрформенную" арфаграфію. Але традыцыйнае, больш вузкае разуменне арфаграфічнай варыянтнасці заключаецца ў тым, што адно і тое ж слова ў адпаведнасці з правіламі сучаснай беларускай арфаграфіі можа мець некалькі напісанняў: ***лідэр–лідар***. Калі гаварыць больш канкрэтна, то арфаграфічныя слоўнікі часам і не фіксуюць варыянтных напісанняў. Між тым гэтыя арфаграфічныя варыянты бытуюць у сучасным перыядычным друку, яны ўжываюцца ў розных сітуацыях гутаркі. Існаванне падобных варыянтаў з'яўляецца важнай лінгвістычнай праблемай, якая патрабуе неадкладнага вырашэння. У наш час на парадку дня – пытанне рэформы беларускага правапісу. У гістарычнай сітуацыі 1990-х гг. перагляд установак беларускай савецкай школы моўнай нармалізацыі запатрабаваў таго, каб удакладніць стандарты літаратурнай мовы. Таму былі створаны Дзяржаўная камісія па ўдакладненні правапісу беларускай літаратурнай мовы і часовы навуковы калектыў пры Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі. Іх супольнымі намаганнямі быў падрыхтаваны праект новай рэдакцыі "Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі". Пытанні ўдасканалення і ўнясення змен у беларускі правапіс непазбежна выклікаюць шырокі грамадскі рэзананс. Яны закранаюць важныя ідэалагічныя і палітычныя аспекты, патрабуюць абмеркавання на самых розных узроўнях. А галоўнае – вырашэнне параблем сучаснай беларускай арфаграфіі немагчымае без дастатковага ўзроўню прафесіяналізму, кампетэнтнасці тых, ад каго гэта залежыць.

Арфаграфічныя варыянты, або варыянты напісання, маюць перш за ўсё іншамоўныя словы. У выніку таго, што яны былі засвоены беларускай мовай у розны час, многія з гэтых слоў вымаўляюцца і пішуцца неаднолькава. Аднак такія іншамоўныя словы маюць практычна тоеснае значэнне. Яшчэ ў помніках старажытнай пісьменнасці адлюстраваны разыходжанні ў напісанні асобных запазычаных слоў. А Б.А. Тарашкевіч у 1920–1930-я гг. слушна заўважаў, што ў беларускай мове заўсёды будзе тэндэнцыя перадаваць аканне ў іншамоўных словах. Вось чаму ў нарматыўных слоўніках і ў мове твораў некаторых пісьменнікаў узнікаюць напісанні: ***ерэтык– ератык, світар – світэр, швайцары – швейцары*** і інш.

Навукоўцы, якія займаюцца праблемамі сучаснай беларускай арфаграфіі і спосабамі іх вырашэння, звяртаюць увагу на тое, што ў розных даведачных выданнях неаднастайна падаецца цэлы шэраг запазычаных слоў: ***рэзюме*** і ***рэзюмэ***, ***сетэр*** і ***сэтэр***, ***супермен*** і ***супермэн***, ***тунель*** і ***тунэль***, ***экземпляр*** і ***экзэмпляр*** і інш. Заўважана агульнае імкненне пісаць гэтыя словы паводле фанетычнага прынцыпу, з літарай э. Так іншамоўныя словы вымаўляюцца ў той мове, адкуль яны запазычаны. Даследчыкі ацэньваюць гэтую тэндэнцыю станоўча. Але недапушчальнай з'яўляецца наяўнасць непаслядоўных напісанняў у адным і тым жа слоўніку: ***сэптычны***, але ***асептычны***, ***экстрасэнс***, але ***сенсорны***. Неаднолькава пішуцца ў розных выданнях таксама і галосныя ў прозвішчах тыпу ***Бізэ***, ***Фрунзе***, ***Малармэ***, у складаных словах: ***горналыжны*** і ***гарналыжны***, ***заходнерускі*** і ***сярэднярускі***, прыслоўі і блізкія да іх спалучэнні: ***надзіва*** і ***на дзіва***. Гэтыя высновы некаторыя даследчыкі (Генадзь Арцямёнак) робяць на падставе вывучэння такіх інфарматыўных і поўных даведнікаў беларускага правапісу, як "Слоўнік беларускай мовы: Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне" (1987), "Слоўнік іншамоўных слоў" у 2 т. Аляксандра Булыкі (1999), "Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы" (2002) і інш.

Недастатковая распрацаванасць найбольш спрэчных пытанняў беларускай арфаграфіі стварае дадатковыя цяжкасці пры здачы экзаменацыйных і навуковых тэстаў, зніжае аўтарытэт беларускага мовазнаўства, пагаршае стаўленне грамадства да беларускай мовы ў цэлым. Таму арфаграфічныя варыянты не заўсёды і не ўсімі ўспрымаюцца як станоўчая з'ява.

Асабліва відавочная шкоднасць арфаграфічных варыянтаў у перыядычным друку. Многія неафіцыйныя выданні бяруць на ўзбраенне, магчыма, не лепшыя прапановы айчынных "рэфарматараў" правапісу. І пішуць, напрыклад: ***віцапрэзідэнт*** (на гэта звяртае ўвагу даследчыца Паліна Юцкевіч). Акрамя таго, у беларускім друку можна сустрэць, напрыклад, некалькі варыянтаў напісання вельмі шырокаўжывальнага слова: ***камп'ютэр, камп'ютар і кампутар***.

Наяўнасць варыянтных напісанняў тлумачыцца неаднолькавым засваеннем іншамоўнай лексікі, у якой вымаўленне асобных гукаў можа абазначацца на пісьме па-рознаму, а таксама ўплывам рускай мовы. Асноўную частку арфаграфічных варыянтаў складаюць менавіта запазычаныя словы. Яны могуць перадаваць дакладна гэтак жа, як у той мове, адкуль яны прыйшлі ў беларускую (***адажыо, трыо***), а могуць адаптавацца нашай мовай паводле яе законаў (***бухгалтар, валейбол***). Вельмі істотным падаецца той факт, што ў любым выпадку лёс арфаграфічных варыянтаў у мове (магчымасці іх далейшага выкарыстання) вырашае, прадвызначае толькі грамадства ў цэлым. У канчатковым выніку таму ці іншаму варыянту можа быць аддадзена перавага выключна пасля праведзенага сур'ёзнага навуковага аналізу, пасля прадуманага разгляду і абгрунтаванага, асэнсаванага грамадскага выбару.

***Святлана САЧАНКА.***

# НОРМЫ, ПАМЫЛКІ, ВАРЫЯНТЫ ВЫМАЎЛЕННЯ

Тэрмін «вымаўленне» ўжываецца ў двух значэннях: 1) асаблівасці артыкуляцыі гукаў маўлення; 2) сукупнасць арфаэпічных норм, уласцівых той ці іншай разнавіднасці мовы.

Правільнае, нарматыўнае вымаўленне гукаў, іх спалучэнняў і слоў з'яўляецца паказчыкам не толькі моўнай, але і агульнай культуры чалавека. Вось чаму так важна ведаць сучасныя нормы беларускага літаратурнага вымаўлення і ўмець прымяняць іх на практыцы. Праца над артыкуляцыяй і дыкцыяй неабходная ўсім, хто актыўна карыстаецца вуснай літаратурнай мовай: настаўніку і акцёру, дыктару і выкладчыку ВНУ, кіраўніку прадпрыемства або арганізацыі, палітыку і дыпламату. Узмацненне ролі вуснай мовы ў жыцці грамадства садзейнічае ўдасканаленню арфаэпічных норм.

Нормы вуснай беларускай літаратурнай мовы ў сваіх асноўных рысах склаліся ў XX ст. (да 1930-х гг.). Літаратурнае вымаўленне рэгулююць нормы, ці правілы. Арфаэпічныя нормы сучаснай беларускай літаратурнай мовы прадугледжваюць аднастайнае вымаўленне галосных, зычных і спалучэнняў зычных гукаў. Гэтыя нормы патрабуюць, каб усе носьбіты мовы аднолькава вымаўлялі, нарыклад, галосныя (злучнік або часціца [і] пасля слова на галосны вымаўляецца як [й]: **добры й балесны**, галосныя [о], [э], [а] не пад націскам вымаўляецца як гук [а]: ***вадой, хмарай, світар, аранжарэя***). Правілы вымаўлення галосных і абазначэння іх з дапамогай магчымасцяў арфаграфіі ў большасці выпадкаў супадаюць. Арфаэпічнымі нормамі рэгулюецца і правільнае вымаўленне зычных гукаў (гук [р] у нашай мове заўсёды цвёрды: ***ракою, арэхі, крама, рэха***, як і гук [дж]: ***дажджы, джала, джгаць***, а гук [дз'] гэтак жа заўсёды мяккі: ***дзверы, Дзвіна, дзякуй*** і інш.). Урэгулявана маўленчымі нормамі таксама і вымаўленне спалучэнняў зычных. Напрыклад, спалучэнні [дч], [тч] павінны вымаўляцца як адзін падоўжаны гук [ч]: ***салдатчына, у складчыну***. Тут напісанне не адпавядае вымаўленню. Спалучэнні зычных [дс], [тс], [чс] і [кс] нормы патрабуюць вымаўляць як [ц]: ***гарадскі, свецкі, свіслацкі, беластоцкі.***

Арфаэпічныя правілы рэгламентуюць і літаратурнае вымаўленне некаторых граматычных норм слоў. Гэта вымаўленне галосных у канчатках ***-ага, -ога, -яга*** прыметнікаў, парадкавых лічэбнікаў і ў канчатку ***-ага*** дзеепрыметнікаў у родным склоне адзіночнага ліку мужчынскага і ніякага роду: ***прыгожага, маладога, сіняга; першага, другога, трэцяга; заснулага, патухшага*** і інш.

Нормы, якія прадвызначаюць месца націску ў словах, называюцца акцэнталагічнымі. Так, адпаведна гэтым нормам трэба гаварыць (і пісаць): ***хачу***, а не ***хочу***, ***погляд***, а не ***пагляд***. Націск у беларускай мове маюць толькі паўназначныя словы, непаўназначныя ж прымыкаюць у якасці склада да наступнага слова або да папярэдняга. Правільная пастаноўка націску ў слове ўскладняецца тым, што націск у нашай мове свабодны, або разнамесны: ***чорны*** і ***чарнейшы***, ***горны*** і ***гарналыжны***.

У рускай мове арфаэпічнымі варыянтамі слова лічаць рознае вымаўленне слоў, не адлюстраванае на пісьме. У беларускай мове напісанне ў многіх выпадках адпавядае вымаўленню, што значна спрашчае засваенне арфаграфічных правіл. Гэта датычыць перадачы сродкамі правапісу асобных праяў акання, а таксама адлюстравання вымаўлення зычных [р], [дж] і інш. Тады дзейнічае г. зв. фанетычны прынцып арфаграфіі. Аднолькавае напісанне марфем (канчаткаў, некаторых прыставак, суфіксаў і інш.) прадугледжана марфалагічным прынцыпам. Да таго ж, многія словы пішуцца паводле традыцыі.

Памылкі, або адступленні ад правіл літаратурнага вымаўлення, узнікаюць з-за адсутнасці ведаў аб арфаэпічных нормах ці ў выніку няправільнага разумення правілаў. Парушэнні арфаэпічных норм сучаснай беларускай літаратурнай мовы тлумачацца самымі рознымі прычынамі. Сярод іх варта назваць такія, як уплыў розных гаворак паўночна-ўсходняга і паўднёва-заходняга дыялектаў беларускай мовы, уздзеянне рускай мовы, няправільнае засваенне іншамоўнай лексікі і інш. Напрыклад, прадстаўнікі паўднёва-заходняга дыялекту могуць вымаўляць націскныя галосныя [ы], [а] ў асобных словах так, як гэта прынята ў іх родным дыялекце: ***кабула, мула, доў, узёў*** замест нарматыўных ***кабыла, мыла, даў, узяў.*** Тыя, на чыё вымаўленне аказалі ўплыў гаворкі паўночна-ўсходняга дыялекту, могуць памылкова вымаўляць прыстаўны [j] замест [г]: ***ета*** замест ***гэта***, націскны канчатак ***-эй*** замест нарматыўных літаратурных ***-ы, -ой*** у прыметніках і займенніках мужчынскага і жаночага роду адзіночнага ліку: ***залатэй*** замест ***залаты***, ***тэй*** замест ***той*** і інш.

Наяўнасць варыянтаў літаратурнага вымаўлення сведчыць пра багацце нашай мовы (хаця ў прынцыпе варыянты не лічацца нечым добрым і пажаданым, паколькі абцяжарваюць, ускладняюць працэс вывучэння мовы). З'яўленне арфаэпічных варыянтаў абумоўлена шэрагам прычын, сярод якіх першаступеннае значэнне мае ўзаемадзеянне літаратурнай мовы з беларускімі дыялектамі. Справа ў тым, што народныя гаворкі – гэта тыя струменьчыкі жывой вады, якія ўліваючыся ў магутную раку літаратурнай мовы, ратуюць яе ад высыхання і збяднення. Таму словы і словаформы, якія бытуюць у дыялектах, часта ўжываюцца, скажам, у мове твораў мастацкай літаратуры. Адтуль яны прыходзяць і ў літаратурную мову. Так адбываецца няспынна. Паколькі нормы вымаўлення змяняюцца разам з развіццём мовы, то арфаэпічныя варыянты ўзнікаюць і ў выніку змен у беларускім правапісе. Так адбылося з часціцай ***не*** і прыназоўнікам ***без***. Да 1933 г. іх вымаўлялі і пісалі як ***ня*** і ***бяз***. У наш час у выніку дзеяння арфаграфічнага правіла аб напісанні іх як ***не*** і ***без*** усё часцей назіраецца вымаўленне, адпаведнае напісанню.

Арфаэпічныя варыянты – гэта словы з падобным, але не тоесным вымаўленнем. Яны адрозніваюцца найперш месцам націску (***колішні – калішні, гады – годы*** і інш.). Названыя словы – акцэнтныя дублеты. Іх узнікненне можна вытлумачыць такімі прычынамі, як уплыў беларускіх гаворак (***далонь – даланя***), граматычная аналогія (***госця – гасця***), а ў вершах – і захаванне рытму або рыфмы. Пад уздзеяннем гаворак у літаратурнай мове замацаваўся адзін з варыянтаў вымаўлення і напісання – формы 1-й асобы множнага ліку дзеясловаў з канчаткам **-ом (-ём)**: ***бяром, нясём, ідзём***. Варыянты ў вымаўленні рознымі даследчыкамі ўспрымаюцца па-рознаму. Некаторыя лінгвісты, лічачы, што кожнае слова ці словаформа ўзбагачае мову, дазваляюць і нават рэкамендуюць ужываць некалькі арфаэпічных варыянтаў у розных моўных стылях. Іншыя ж, наадварот, імкнуцца абмежаваць выкарыстанне асобных варыянтаў адным стылем – як правіла, стылем мастацкай літаратуры. У мастацкіх творах сапраўды допускаецца большая моўная свабода ў параўнанні з афіцыйна-дзелавым або навуковым стылямі сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Галоўным крытэрыем пры выбары аднаго з варыянтаў звычайна лічаць тое, ці зафіксавана слова (словаформа) у акадэмічных слоўніках, выдадзеных Інстытутам мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі.

Нягледзячы на пастаянную нармалізацыю літаратурнай мовы, варыянты працягваюць існаваць і патрабуюць самай пільнай даследчыцкай увагі.

***Святлана САЧАНКА.***






# Беларуская мова ў інфармацыйнай прасторы

**Выступленне намесніка старшыні ГА "ТБМ імя Ф.Скарыны" Сяргея Кручкова на IX з'ездзе**

Шаноўныя дэлегаты і госці з'езду.

Я хацеў бы пачаць сваё выступленне некалькімі цытатамі з кнігі "Разбурыць Парыж" вядомага беларускага філосафа Валянціна Акудовіча. У сваім артыкуле "Фрагменты страчанага гіпертэксту" ён піша: *"Ці тэхналагічны беларускі нацыяналізм, і ці ёсць у яго шанцы (застацца) тэхналагічным заўтра? Гэта канцэптуальнае пытанне, калі заўгодна – лёсавызначальнае для ідэі беларускай Беларусі. Бо калі не, нетэхналагічны, то колькі б мы ні ўлягаліся ў адраджэнне мовы, гісторыі, культуры, колькі б ні ладзілі мітынгаў, пікетаў, шэсцяў, колькі б ні ганілі кожную новую ўладу за яе абыякавасць да нацыянальнай ідэі – усё будзе марна. Сучасная цывілізацыя не бярэ пад увагу нетэхналагічныя ідэі, а тым болей не прымае іх да рэалізацыі..."*.

Я б сказаў, што тое самае тычыцца і перспектываў функцыянавання і развіцця беларускай мовы. На маю думку, беларуская мова ў сучасным свеце зможа захавацца не тады, калі яна будзе мець распаўсюд у традыцыйных асяродках, а калі яна зможа замацавацца ў інфармацыйнай сферы.

На першы погляд, гэтае меркаванне выглядае спрэчным. Але давайце паразважаем. Звернемся да канкрэтных прыкладаў. Вядома, што электронны ўлік больш каля 4-ох мільёнаў беларускіх грамадзян у Фондзе сацыяльнага забеспячэння вядзецца толькі на рускай мове. Электронная база дадзеных гэтага Фонду – самая вялікая ў Рэспубліцы Беларусь. На яе падставе, магчыма, будуць ствараецца і іншыя базы дадзеных, напрыклад увядзенне "электронных пашпартоў" грамадзян нашай краіны, ці яшчэ якія іншыя, што будуць з'яўляцца ў Беларусі па меры развіцця інфармацыйных тэхналогіяў. Такім чынам, непрыкметна для саміх грамадзянаў беларуская мова будзе адкінутая ў XXI стагоддзе, як мова, якая не будзе ўжывацца ў сучасных інфармацыйных сістэмах. Таму, на маю думку, нам варта было б засяродзіцца на стварэнні або адаптаванні (лакалізацыі) камп'ютарных праграм і стварэнні інфармацыйных рэсурсаў і базаў дадзеных на беларускай мове.

Што я маю на ўвазе? Цяпер у нашай краіне амаль няма сфераў, дзе б не карысталіся камп'ютарнай тэхнікай. Амаль уся дакументацыя набіраецца ў тэкставым рэдактары Microsoft Office. Менавіта таму прыярытэтным кірункам дзейнасці камісіі па інфарматызацыі стала стварэнне праграмы праверкі арфаграфіі беларускай мовы. Як вам вядома першая версія такой праграмы створаная групай энтузіястаў у 2004 годзе. І зараз любы жадаючы мае магчымасць бясплатна атрымаць яе ў сядзібе ТБМ альбо запампаваць з сайту ў Інтэрнэце па адрасе: http://pravapis.tut.by. Зараз вядзецца работа па ўдасканаленні гэтае праграмы.

Але стварэнне арфаграфічнай падтрымкі беларускай мовы ў адным з самых распаўсюджаных тэкставым рэдактары не вырашае ўсіх праблем па "замацаванні" роднай мовы ў інфармацыйнай прасторы. Праца па беларусізацыі, нягледзячы на поўную адсутнасць дзяржаўнай падтрымкі, вядзецца дзесяткамі беларускіх валанцёраў. Варта прыгадаць такія прадукты, як беларуска-рускі і руска-беларускі электронны перакладчык "Белазар", аўтарам якога з'яўляецца Алег Азаровіч, лакалізацыю тэкставага рэдактара OpenOffice Юрася Тарасевіча, дзесяткі іншых лакалізаваных праграм, спасылкі на якія можна знайсці на сайце http://belsoft.tut.by. Карыстаючыся выпадкам хацеў бы выказаць шчырую падзяку ўсім валанцёрам, якія займаюцца перакладамі праграмнага забеспячэння. Прыходзіцца толькі шкадаваць пра тое, што большая частка беларускіх перакладаў не ўваходзіць у афіцыйны дыстрыбутыў замежных вытворцаў праграмных прадуктаў. На маю думку, гэта тлумачыцца тым, што ў краіне няма арганізацыі, якая магла б цэнтралізавана дамагацца ўключэння беларускай мовы ў стандартны пакет камп'ютарных праграм. Каб прадстаўнікі беларускага ўраду, ці той жа, толькі што створанай, "сіліконавай даліны" мелі такое жаданне, – гэтага можна было б дамагчыся без вялікіх высілкаў, але ...

Хацеў бы звярнуць вашу ўвагу і на той сегмент рынку, які развіваецца "касмічнымі" тэмпамі, а менавіта аказанне паслуг сотавай сувязі. Ужо цяпер каля 3,5 мільёнаў беларусаў карыстаюцца гэтымі паслугамі. На жаль, ні адзін таваравытворца так і не спадобіўся зрабіць падтрымку беларускай мовы ў меню тэлефонных апаратаў. Меліся пэўныя спадзяванні, што фірма SAMSUNG адной з першых зможа рэалізаваць падтрымку беларускай мовы ў сваіх тэлефонных апаратах. Але гэтага так і не адбылося. Затое некалькі валанцёраў здолелі распрацаваць у праграмным забеспячэнні і беларусізаваць некаторыя мадэлі сотавых тэлефонаў. Гэтая "беларусізацыя" адбылася сярод вельмі вузкага кола сяброў і знаёмых. На маю думку яе трэба давесці да таваравытворцаў і змусіць іх павярнуцца да беларускай мовы. Пераканаць замежных вытворцаў у гэтым надзвычай цяжка, бо існуючыя цяпер у Беларусі аператары сотавай сувязі амаль не аказваюць сервісных паслуг спажыўцам на беларускай мове. Нягледзячы на тысячы сабраных подпісаў у адрас МТС і Вэлком, яны так і не спадобіліся перавесці на беларускую мову свае аўтаматычныя сервісныя службы. Кампанія "Мабільныя ТэлеСістэмы" парупілася толькі пра тое, каб часткова беларусізаваць свой сайт у Інтэрнэце.

Звяртаючы вашу ўвагу на пэўныя станоўчыя вынікі і рост колькасці беларускамоўных інфармацыйных рэсурсаў у Інтэрнэце, варта адзначыць вельмі вузкую скіраванасць сайтаў на роднай мове. Яны, як правіла, прысвечаныя грамадска-палітычнаму жыццю ў краіне. Надзвычай мала рэсурсаў навучальнага і адукацыйнага характару. А між тым, развіццё інфармацыйных тэхналогій і камп'ютарнай тэхнікі ідзе так хутка, што хатні камп'ютар сучаснаму чалавеку цалкам можа замяніць наведванне бібліятэкі і навучальнай установы. Ва ўсім свеце імкліва развіваецца тэхналогіі дыстанцыйнага навучання, калі, седзячы дома, можа атрымаць паўнавартасную адукацыю. Дарэчы, менавіта на падставе тэхналогіяў навучання на адлегласці можна і трэба ствараць Беларускі нацыянальны ўніверсітэт. Першы крок на гэтым шляху зроблены зноў-такі намаганнямі добраахвотнікаў, якія выканалі пераклад праграмнага комплексу па стварэнні дыстанцыйных навучальных рэсурсаў MOODLE. На яго падставе ў бліжэйшы час мяркуецца стварыць Беларускі адукацыйны партал. Я заклікаю ўсіх прысутных на з'ездзе выкладчыкаў, навуковых дзеячоў і простых валанцёраў далучыцца да працы па распрацоўцы і напаўненні гэтага рэсурсу. Мяркую, што настаў час, калі нам неабходна пачаць стварэнне такіх электронных навуковых базаў дадзеных на беларускай мове. Я, як і ўсе прысутныя, перакананы, што рана ці позна ў нашай краіне адбудзецца змена рэжыму. Узнікне патрэба пераводу навучання на родную мову ва ўсіх ВНУ. Электронная навуковая база дадзеных магла б легчы ў аснову стварэння і напісання падручнікаў на роднай мове па дысцыплінах вышэйшай школы. Калі да гэтае працы мы не далучымся зараз, то ў бліжэйшай гістарычнай перспектыве атрымаем той жа вынік, што і на пачатку 90-х гадоў, калі немагчыма было правесці хуткую беларусізацыю вышэйшай адукацыі, бо адсутнічалі падручнікі і метадычныя распрацоўкі. Нам трэба ўсвядоміць і тое, што пры змене рэжыму ніхто ня зможа адмяніць эканамічную мэтазгоднасць. І калі ў распараджэнні дзяржаўных органаў будуць толькі рускамоўныя падручнікі і рускамоўныя базы дадзеных, правесці беларусізацыю вышэйшай школы будзе немагчыма. Мы проста прайграем у канкурэнтнай барацьбе з рускамоўнай адукацыяй.

Паважаныя сябры, працы па беларусізацыі інфармацыйнай прасторы вельмі шмат. І кожны з нас можа знайсці магчымасць больш актыўна далучыцца да "замацавання" беларускай мовы ў інфармацыйных тэхналогіях, прадуктах, рэсурсах і базах дадзеных. Спадзяюся, што сённяшні з'езд паспрыяе паскарэнню працэсаў беларусізацыі ў інфармацыйнай сферы.

*Ігар Карней*

# Пакуль дойдзе чарга да палітыкаў, першымі церпяць сябры ТБМ

З'явіліся першыя кадравыя "ахвяры" сярод прыхільнікаў Аляксандра Мілінкевіча - прэтэндэнта ад аб'яднанай апазіцыі на маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбарах. Пасля сустрэчы са студэнтамі Баранавіцкага недзяржаўнага эканоміка-юрыдычнага каледжа вымушаны быў напісаць заяву аб звальненні выкладчык Віктар Сырыца.

Адзін са старэйшых выкладчыкаў эканоміка-юрыдычнага каледжа Віктар Сырыца сапраўды канстатуе, што яго прымусілі пакінуць навучальную установу. Ён нямала здзіўлены ад такога рашэння і Міністэрства адукацыі, і ўласна кіраўніцтва каледжу, паколькі падчас запрашэння студэнтаў на сустрэчу з Аляксандрам Мілінкевічам спадар Сырыца сам усіх супакойваў: будзе звычайная гутарка, мерапрыемства цалкам законнае, да таго ж, адбываецца пасля заняткаў. У выніку здарылася з дакладнасцю да наадварот.

- *Фактычна прымусілі,* - гаворыць Сырыца, - *таму што прымалі ўдзел у сустрэчы мае студэнты, супраць якіх быў вельмі моцны ўціск. Перадусім, іх запалохвалі выключэннем. Каб спыніць вось гэты ўціск, я напісаў заяву аб звальненні. Да таго ж, дырэктара нашага каледжа выклікаў намеснік міністра адукацыі і фактычна загадаў яму: альбо звальняеце Сырыцу, альбо навучальная ўстанова не праходзіць атэстацыю. Дырэктар мне ў прысутнасці ўсёй адміністрацыі так і сказаў: калі ты не напішаш заяву, наша навучальная ўстанова не пройдзе атэстацыю сёлета ў снежні. Але самае галоўнае: я напісаў заяву, бо быў супраць рэпрэсій. Студэнтаў запалохвалі выключэннем, казалі пра тое, што яны ніколі ў дзяржаўны ўніверсітэт не паступяць. І я бачыў слёзы ў гэтых дзяцей...*

Метад запалохвання ўлады ўзялі на ўзбраенне даўно. Але, падаецца, што гэтым разам у апазіцыі ёсць свае контраргументы. Прынамсі, Аляксандар Мілінкевіч ужо заявіў, што будзе створаны фонд падтрымкі пацярпелых ад пераследу з боку ўладаў.

- *Ад пачатку я фактычна беспрацоўны. Таму на маім прыкладзе важна зрабіць так, каб людзі не баяліся страціць працу, каб была ў людзей нейкая смеласць. Бо, прыкладам, мне ў Баранавічах знайсці працу пасля гэтага практычна немагчыма. У школу мяне не возьмуць, таму буду спрабаваць шукаць працу дзесьці на заводзе, у якога-небудзь прадпрымальніка. Я чалавек працавіты і думаю, што не прападу. Да таго ж, я старшыня Баранавіцкага аддзялення Таварыства беларускай мовы і, мяркую, буду працягваць і надалей актыўную працу ў гэтым кірунку.*

Віктар Сырыца ўзначальвае Берасцейскую абласную і Баранавіцкую гарадскую арганізацыі Таварыства беларускай мовы. Старшыня ТБМ Алег Трусаў характарызуе спадара Сырыцу як надзвычай актыўнага чалавека, але кажа, што апазіцыі трэба больш акуратна ставіцца да людзей, на якіх урэшце кладзецца такая адказнасць:

- *Сырыца вельмі актыўны чалавек, таму нічога дзіўнага няма. Тым больш, што ў Баранавічах Мілінкевіч сапраўды вельмі моцна "засвяціўся".*

Адносна стварэння фонду для падтрымкі рэпрасаваных А. Трусаў зазначыў:

- *Усё гэта добра, але ж - "будзе створаны..." Спачатку трэба стварыць а ўжо потым па Беларусі ездзіць. А не наадварот. З "воўчым білетам" у Баранавічах выкінуць, і куды ты дзенешся? Хто цябе на якую працу возьме? І колькі такіх людзей ужо пацярпела: мусілі за мяжу з'язджаць, прасіць прытулку і г.д.*

Як удалося высветліць, штаб Мілінкевіча паралельна вядзе перамовы з замежнымі навучальнымі ўстановамі на выпадак, калі вынікам сустрэчаў студэнтаў з апазіцыйнымі лідарамі будуць выключэнні выкладчыкаў ці навучэнцаў. Пакуль гаворка пра спецыяльныя і вышэйшыя установы суседніх краінаў.

*Дырэктару*
*Баранавіцкага эканоміка-*
*юрыдычнага каледжа*
*Сокалу Г. Г.*
*Выкладчыка сацыяльна-*
*гуманітарных дысцыплін*
*Сырыцы В. А.*

*18.11.2005 г.*

*Заява*

*11 лістапада 2005 года я са сваімі студэнтамі прыняў удзел у сустрэчы з Аляксандрам Мілінкевічам ля Баранавіцкага дзяржаўнага універсітэта. Падчас гутаркі абмяркоўвалі пытанні павышэння кошту за адукацыю, праблемы размеркавання ды й студэнцкіх інтарнатаў. Навучэнцы, якія сустракаліся з кандыдатам фізіка-матэматычных навук, хацелі ведаць альтэрнатыўны погляд кандыдата ў прэзідэнты ад дэмакратычных сілаў Беларусі.*

*Я катэгарычна супраць таго, што на працягу тыдня ажыццяўляецца ўзмоцнены ціск і запалохванне студэнтаў, якім пагражаюць выключэннем з каледжа. Не магу пагадзіцца з вымовай сп. Гайдук М. І. і Мішэйскаму Б.Ф., бо яны, як адміністратары, сумленна выконваюць свае абавязкі. Студэнты таксама заслугоўваюць не вымовы, а найвышэйшай пашаны за імкненне да ведаў і актыўнай грамадзянскай пазіцыі.*

*У знак пратэсту супраць такіх дзеянняў адміністрацыі каледжа прашу мяне звольніць з пасады выкладчыка сацыяльна-гуманітарных дысцыплін.*

*Подпіс – Сырыца.*

# Фармаванне здаровага ладу жыцця па-беларуску

*Круцім, круцім калаўрот:*
*Вучымся, гуляем,*
*Беларускі наш народ*
*Шчыра праслаўляем!*

Так гучаў дэвіз мерапрыемства, праведзенага ў Лідскім педкаледжы ў рамках рэспубліканскага семінара "Фармаванне здаровага ладу жыцця".

Кабінет-музей "Беларуская хатка" пераўтварыўся ў царства шчырасці, цеплаты, гонару за сваю краіну. І госці, і ўдзельнікі атрымалі сапраўдную асалоду, дакрануўшыся да льняных палотнаў – увасаблення здаровага ладу жыцця беларусаў, пачуўшы мілагучную родную мову, пачаставаўшыся стравамі беларускай кухні. У атмасферы сапраўднай беларускай шчырасці і дабразычлівасці ўсе прысутныя пераканаліся, што наш народ здаўна трымаўся здаровага ладу жыцця і старанна, крапатліва перадаваў гэтую добрую традыцыю нашчадкам. Гэта яскрава было бачна, калі кранулiся пытанняў народнай педагогікі, а таксама асноў своеасаблівага "кодэксу беларускай гаспадыні": ***Некалі пiць – курыць, трэба дзетак вучыць, трэба печку паліць - сям'ю карміць, палатно ткаць – адзенне шыць, вышываць, у полі працаваць, песні спяваць...***

"Беларусы – здаровая нацыя!" – з гонарам зможам сказаць мы, калі будзем прытрымлівацца тых асноў здаровага ладу жыцця, якія нам пакінулі продкі.

Свеціцца цiхім святлом льняны ручнік. Ад аладак ідзе казачны пах. Звiніць і пераліваецца беларускае слова ... І мерна гудзе кола калаўрота:

*Круцім, круцім калаўрот...*
*Нітка з лёну ўецца.*
*У тваёй песні, калаўрот,*
*Беларусаў сэрца*

***Пасканава Вольга,***
***група Ш-4-А.***

**На здымках:**
У "Беларускай хатцы".

# Пісьменнік – вандроўнік

Дваццаць другога лістапада ў сядзібе грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" адбылася творчая сустрэча з вядомым беларускім пісьменнікам Уладзімірам Арловым, які напісаў больш за 30 кніг на гістарычную тэматыку. "Вандроўкі ў прасторы і часе" – тэма сустрэчы, прысвечана выхаду яго кнігі "Сланы Ганібала".

Як паведаміў слухачам Уладзімір Арлоў, далёкія яго продкі былі цыганамі. І менавіта таму яго так цягне ў падарожжы. Некаторыя людзі, вандруючы, робяць нейкія здымкі. Уладзімір Арлоў жа не здымае, а пакідае свае ўспаміны на паперы. Свае ўражанні ён перадаў праз кнігу "Сланы Ганібала", якая складаецца з падарожных эсэ.

На сустрэчы пісьменнік паведаміў шмат чаго цікавага з сваёй біяграфіі і некаторыя моманты з дзяцінства, некаторыя са студэнцкіх гадоў. Кім толькі ў дзяцінстве Уладзімір Арлоў не марыў стаць: і вадалазам, і паталагаанатамам, і шпіёнам, і журналістам, і ў рэшце рэшт гісторыкам. Бацькі ж жадалі, каб іх сын быў медыкам. Але тое. што Уладзімір Арлоў нарадзіўся ў горадзе Полацку паўплывала на яго далейшы жыццёвы лёс: у 1970-ым годзе ён стаў студэнтам гістарычнага факультэта БДУ.

У канцы прамовы пісьменнік зачытаў некаторыя цытаты з сваіх твораў, а таксама адказаў на ўсе пытанні, якія цікавілі слухачоў.

***Дубко Ганна.***

# Дзве сустрэчы – два розныя ўражанні

На мінулым тыдні адбылася сустрэча ў Доме літаратараў з вядомым гісторыкам, патрыётам роднай Полаччыны - Уладзімірам Арловым. Дарэчы, мне давялося сустракацца з ім ужо двойчы. Але дзве гэтыя сустрэчы па-рознаму адбіліся на маім светапоглядзе. Нездарма кажуць, што першае ўражанне заўжды падманнае. Першае знаёмства з Уладзімірам Арловым прыпала на той час, калі я яшчэ была навучэнкай 10 класа (калі ён наведваў нашу школу). На той час ён празентаваў кнігу "Адкуль наш род", менавіта тую, якую за ўдзел у віктарыне мне і пашанціла атрымаць. На тытульным лісце. Уладзімір Арлоў зрабіў надпіс, а таксама аўтограф. Гэтую кнігу склалі займальныя і пазнавальныя апавяданні з гісторыі Беларусі і пачынаючы ад тых часоў, калі на нашай зямлі з'явіліся першыя людзі. Але калі казаць шчыра асобага ўражання на той час Уладзімір Арлоў як пісьменнік на мяне не аказаў.

І вось, калі я ўжо студэнтка 3 курса, адбылася чарговая сустрэча, якая стала сапраўдным пераваротам. Дзякуючы ёй, я ацаніла Уладзіміра Арлова як сапраўды таленавітага чалавека. Ён аказаўся даволі цікавым чалавекам, не пазбаўленым пачуцця гумару. Гэта сустрэча адбылася з нагоды прызентацыі новай кнігі "Сланы Ганібала", якую ў параўнанні з іншымі склалі ў большасці падарожныя эсэ. Акрамя споведу пра творчы свой шлях Уладзімір Арлоў даволі падрабязна расказваў пра дзіцячыя гады, пра сваіх бацькоў. Што самае цікавае, дык гэта тое. што яго маці, будучы сама настаўніцай гісторыі, была катэгарычна супраць жадання сына паўтарыць яе шлях. Але Уладзімір Арлоў наперакор усяму паступіў у БДУ на гістарычны факультэт. Менавіта гэта і дало яму трывалую глебу для будучай дзейнасці. Ён стаў такім, якім яго зараз ведаюць усе – знакамітым, таленавітым дзеячам культуры.

***Юля Варанцова.***

Беларуская мова – ТБМ – наша будучыня

## *Ахвяраванні на ТБМ*

1. Казлоўская Іна – 2600 р., г. Менск.
2. Ракевіч Мікалай – 1000 р., Слонім. суп.
3. Ігнатовіч Т. – 500 р., Слонімская суп.
4. Трафімчык Алена – 500 р. Слонім. суп.
5. Сідорчык Н.М. – 500 р. Слонім. суп.
6. Вярбоўская І.Л. – 3000 р.
7. Чарняўскі Міхась – 12000 р., г. Менск.
8. Шамёнка Сяргей – 20 р., г. Менск.
9. Шкірманкоў Фэлікс – 70000 р., г. Слаўгарад.
10. Чарняўскі Міхась – 12000 р., г. Менск.
11. Васільева Г. І. – 820 р., г. Менск.
12. Фурс Антон – 10000 р., г. Паставы.
13. Шруб Васіль – 10000 р., в. Хільчыцы, Жыткавіцкі р-н
14. Кірылаў Герман – 10000 р., г. Полацк.
15. Бялевіч Леў – 10000 р., г. Полацк.
16. Сябра ТБМ з Жыткавіцкага р-на – 13000 р.
17. Хадоскін-Ігнацікаў П. – 3000 р., г. Гомель.
18. Суполка "Народная воля" – 72000 р., г. Менск.
19. Дзіцэвіч Людміла – 5000 р., г. Менск.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г. Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белінвестбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

**Паведамленне**

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705**
атрымальнік плацяжу
**Мінская гарадская дырэкцыя ААТ "Белінвестбанка"**
назва банка

| Рахунак атрымальніка | **3015212330014** | Асабовы рахунак | **764** |
|---|---|---|---|

(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|---|
| **Ахвяраванні** | **на дзейнасць** | | | |
| **ТБМ** | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | Пеня | |
| | | | Разам | |

**Касір**

**Плацельшчык**

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705**
атрымальнік плацяжу
**Мінская гарадская дырэкцыя ААТ "Белінвестбанка"**
назва банка

| Рахунак атрымальніка | **3015212330014** | Асабовы рахунак | **764** |
|---|---|---|---|

(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|---|
| **Ахвяраванні** | **на дзейнасць** | | | |
| **ТБМ** | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | Пеня | |
| | | | Разам | |

**Квітанцыя**

**Касір** **М.П.**

**Плацельшчык**

# Растуць шэрагі ТБМ

4 снежня ў горадзе Бярозаўцы Лідскага раёна прайшоў устаноўчы сход Бярозаўскай суполкі ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны". У свой час тут існавалі суполкі Таварыства, але іх дзейнасць паступова затухла. І вось прышла пара ТБМ вярнуцца ў горад. Быў абраны старшыня суполкі, ім стаў Сяргей Дычок, вызначаны першачарговыя задачы, а менавіта - падрыхтоўка сходу Бярозаўскай гарадской арганізацыі ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны". Акрамя мясцовых прыхільнікаў беларускага слова на паседжанні прысутнічаў сябар Рады ТБМ, старшыня Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ Станіслаў Суднік.

Трэба адзначыць, што гэта ўжо другая суполка ТБМ утвораная на Лідчыне за апошнія два месяцы. Незадоўга да з'езду ТБМ была ўтворана Паўночная суполка Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ. Старшынём Паўночнай суполкі абраны студэнт Лідскага тэхнічнага каледжа Сяргей Чайка.

Шэрагі ТБМ на Лідчыне растуць, але, відавочна, што сітуацыя з беларускай мовай усё-такі пагаршаецца. Таму за ростам шэрагаў неадменна павінен ісці рост актыўнасці ўсіх структураў Таварыства.

***Яраслаў Грынкевіч.***

## *Адказы на крыжаванку са ст. 12.*

**Па гарызанталі:** 1. Вячка; 4. Сказ; 6. Пуга; 8. Візітатар; 9. Свіран; 11. Расоны; 13. Коска; 14. Касатка; 16. Калодка; 19. Неліквід; 20. Свякруха; 22. Флемінг; 25. Пакровы; 27. Раска; 28. Кашара; 29. Гарбар; 31. Гранатнік; 32. Арфа; 33. Імжа; 34. Альба.

**Па вертыкалі:** 1. Вязынка; 2. Чуткасць; 3. Аўторак; 4. Спас; 5. Зварот; 6. Прасол; 7. Анты; 10. Васільева; 12. Надбудова; 14. Кенаф; 15. Кавун; 17. Амяла; 18. Аналы; 21. Містраль; 23. Івалга; 24. Грамата; 25. Паганка; 26. Карскі; 28. Каса; 30. Рада.

*Людміла Дзіцэвіч*

# Беларуска-ірландскі дзённік

## *(Працяг "Ірландскага дзённіка")*

***Шаноўныя чытачы! Я шчыра ўдзячная вам за ўвагу да майго "Ірландскага дзённіка", за добрыя словы, якія чула ад вас у адрас маіх публіцыстычных замалёвак. За гэты час я зноў пабывала ў Ірландыі, сустрэлася там са сваімі сябрамі і захацела прадоўжыць свае нататкі, але трошкі пад іншай назвай. Яе прапанаваў Ларэнца Хайнз, мяккі і чулы бізнесмен з Мулінгара. Таму, мой цярплівы чытач, прапаноўваю зноў адправіцца ў падарожжа па гэльскім краі.***

***З павагай — Людміла Дзіцэвіч.***



*Ларэнца і яго жонка Брайда з беларускім хлопчыкам Ігарам, які ў іх жыў*



*Дара падараваў майку беларускаму хлопцу*

У жніўні 2004 года зноў прыляцелі ірландцы з Кілбэгэна ў Станькаўскую школу-інтэрнат. Кожны год яны прыязджаюць рабіць рамонт у інтэрнаце, даюць грошы на неабходнае.

У мінулым годзе яны абсталявалі амаль усе прыбіральні. Засталося толькі некалькі. Работы было няшмат, па-гэтаму ірландцы вырашылі паглядзець сабе фронт работы ў другіх інтэрнатах у Беларусі. Дырэктар Уладзімір Міхайлавіч прасіў іх трохі адпачыць, бо ірландцы вельмі працавітыя і звычайна робяць у два разы больш, чым нанятыя рабочыя. Але Шон Крэг сказаў, што яны з Ірландыі ехалі сюды на адзін тыдзень у свой водпуск не адпачываць. Хоць і адпачываць ірландцы ўмеюць, відаць, лепш за нас. Яно і бачна: як працуюць, так і адпачываюць, тое і маюць.

Мы аб'ехалі пяць інтэрнатаў у Беларусі: Заслаўе, Ждановічы, Івянец, Сёмкава, Іўе. Я добра памятаю, як гадоў 10-15 назад мы, сябры ГА "Дзіцячы фонд духоўнага і культурнага адраджэння "Сакавік", з нашай старшынёй Марыяй Міцкевіч наведалі некалькі інтэрнатаў. Якія яны былі запушчаныя. Якія непрыглядныя былі спальні, актавыя залы, кухні і асабліва туалеты, што надавалі спецыфічны пах усяму памяшканню.

Гэтым летам мяне ўразілі адрамантаваныя будынкі, еўрарамонт у туалетах, душавых. І ўсё гэта зроблена рукамі фундатараў з той жа Ірландыі, Англіі, Італіі і іншых краін. Мы пабачылі прыгожыя спальні, хораша апранутых дзетак. Ва ўсім заўважаецца еўрапейская рука дапамогі. У той жа час і нашы дырэктары не дрэмлюць. Яны стараюцца абсталяваць цяпліцы, гадуюць свіней, кароў, каб пракарміць дзяцей. Кожны дырэктар інтэрната стараецца адшукаць сабе замежнага спонсара. Іўеўская школа-інтэрнат яшчэ такога не мае, і пагэтаму мае звычайны выгляд з усімі атрыбутамі савецкага часу. Ірландцы толькі цокалі языкамі, аглядаючы абсталяванне старых прыбіральняў.

Наведваючы розныя школы-інтэрнаты, я пабачыла сутыкненне рознага мыслення – старога і новага і парадавалася, што ў маёй Беларусі з дапамогай еўрапейскіх краін пачынае ўсталёўвацца прагрэсіўны дэмакратычны стыль.

Я запісала некалькі гісторый, звязаных з прыездам ірландцаў у Беларусь у жніўні 2004 года.

### Беларуская мова ў аэрапорце "Менск - 2"

Калі ірландцы прыляцелі ў Менск і пачалі атрымліваць багаж, то ўбачылі, што адна скрынка з фарбай пашкодзілася. Фарба сапсавала некалькі сумак і чамаданаў. Службоўцы аэрапорта і Шон Крэг вялі гутарку пра інцыдэнт, а я перакладала. Пачуўшы маю беларускую мову, і дзяжурны, і прадстаўнік адміністрацыі, і адказны за багаж пачалі размаўляць са мной па-беларуску. Для мяне гэта было прыемным дзівам. Я ўжо прывыкла, што чую беларускую гаворку ў асяроддзі гуманітарыяў: сярод пісьменнікаў, журналістаў, людзей сферы культуры. А тут аэрапорт. Я мяркую, што кантакты з замежнікамі, якія цэняць сваё, натуральнае, паспрыялі гэтаму пераходу да роднай мовы. Забягаючы наперад, скажу, што адлятаючы ў Ірландыю летам 2005 года, сустрэлася з яшчэ большым пашырэннем сферы выкарыстання нашай мовы ў аэрапорце. Службоўца, які афармляў багаж, гаварыў на прыгожай літаратурнай беларускай мове. І мае дзеці цішэлі, з павагай паглядаючы на яго. Яны падсвядома разумелі, што гэта новая Беларусь.

Інцыдэнт з фарбай закончыўся добра. Я патлумачыла, што фарбу везлі для рамонту школы-інтэрната для дзяцей-сірот, што гэта гуманітарная дапамога. Тыя беларусы, што круцілі пальцам каля скроні, дзівячыся, навошта ірландцы вязуць за тысячы кіламетраў тую фарбу, калі яе, якаснай, навалам у Беларусі, супакоіліся і, пабраўшы свае забруджаныя валізы, хуценька разышліся, не патрабуючы ніякіх кампенсацый. Усё-такі беларусы малайцы, разумеюць важнасць міжнародных гуманітарных кантактаў. Ірландцы засталіся задаволенымі.

### Культурныя стасункі

Ірландцы жылі ў гатэлі вайсковай часткі і кожны вечар пасля работы збіраліся ў вялікай зале для адпачынку. Яны любяць папіць піва – і штодзень куплялі па некалькі бутэлек. Асабліва палюбілі нашу "Крыніцу". А яшчэ ірландцы любяць спяваць. Пяе практычна кожны. Яны не саромяюцца, і як толькі іх папрасілі, яны пяюць. Мы праспявалі разам мноства песень – беларускіх і ірландскіх. У групе былі гітарысты – Джо і Джэймс, банджыст Рычард. Як хораша ірландцы пяюць! Яны заплюшчваюць вочы ад уцехі і плывуць на хвалях песні. У гэты час яны робяцца дзецьмі – шчаслівымі, даверлівымі, наіўнымі. Яны ўвогуле такія ў жыцці, і з імі вельмі добра кантактаваць, бо яны вельмі добразычлівыя, шчодрыя. Гэльскія нашчадкі вельмі любяць сваё графства Вестміт і з натхненнем пяюць пра яго песню "Уперад, Вестміт" (Comon Westmeath) Найлепшымі спевакамі лічыліся Джэймс Фарэл і Джо Келі. Цудоўна спявала Bright blue rose Пола Гільфоіл – Донагі (Guilfoyle-Donaghy) – у яе пяшчотны мяккі голас. Вельмі падабалася ўсім песня "Мае званочкі" (My ding a ling) у выкананні Рычарда Макмагана, і яе падхоплівалі ўсе.

На тыдзень гатэль ператварыўся ў філармонію. Сюды прыбягалі дзеці са Станькава і з ахвотаю вялі кантакты з ірландцамі. Прыходзілі і дарослыя. Вера, загадчыца гатэля, увогуле запрасіла іх дадому і нагатавала ўсякіх страў. Усім цікава паглядзець на сапраўдных ірландцаў. Некаторыя людзі ніколі не бачылі замежнікаў ужывую. Асабліва пасябравалі ірландцы з Сашай Пракапчук, дачкой Веры. Дзяўчынка добра гаворыць па-ангельску і цудоўна спявае. Вельмі ўсім падабалася яе песня з кінафільма "Тытанік". Наладзіліся моцныя стасункі з Толікам са Станькаўскага інтэрната. Хлопец так незвычайна танцуе сучасны рэп, што ўсе збягаюцца глядзець. Дара прэзентаваў Толю сваю ірландскую футбольную майку, і хлопец ходзіць шчаслівым.

У развітальную вечарыну школа-інтэрнат наладзіла цудоўны канцэрт. Якія таленавітыя нашы дзеці! Яны спявалі і танцавалі, як сапраўдныя артысты. Ды і настаўнікі спявалі вельмі хораша. Усё-такі мастацкая самадзейнасць, прывітая ў савецкія часы, плюс сучасная раскаванасць даюць вельмі добрыя вынікі.

Ірландцы таксама ўдзельнічалі ў канцэрце. Практычна кожны з іх спяваў ці іграў. І гэта было так узнёсла і захапляльна, што прайшло дзве гадзіны, а ніхто не стаміўся, ніхто не хацеў разыходзіцца.

Культурныя стасункі працягваліся і ў Менску, куды ірландцы прыехалі перад адлётам. Мы арганізавалі для іх вечарыну ў Чырвоным касцёле, куды нас гасцінна запрасіў пробашч Уладыслаў Завальнюк. Мая Тодараўна, дачка рэпрэсаванага паэта Тодара Кляшторнага, арганізавала з унучкай Хрысцінай сустрэчу гасцей.

Хрысціна Малючэнка і яе сяброўка Насця Ціткова ў прыгожых нацыянальных строях паднеслі гасцям хлеб-соль з традыцыйным вітаннем,, праспявалі беларускія песні. Дар'ян Шахаб і Міхась Саўчанка наладзілі цэлы канцэрт народных песень, а Наталля Кароціна іграла для гасцей класічную музыку. Вадзім Дудаладаў нават адпрасіўся з клінікі, дзе ляжаў, каб толькі праспяваць гасцям свае любімыя песні. Перакладала для гасцей Юля Дзіцэвіч.

Ірландцы ў зале Чырвонага касцёла сустрэліся са сваімі калегамі па гуманітарнай дапамозе з Валіі Майклам і Марсіяй Доўэламі, якія ў чарговы раз прывезлі ў Беларусь на грузавіках гуманітарны груз. Яны нечым падобныя, гэтыя людзі, якія ў свой вольны час памагаюць беларусам выжыць.

*(Працяг у наст. нумары.)*



*Ірландцы з беларускімі дзяўчатамі*

С. Квіцень

# ШЛЯХ: ТВАРЫ, ДУМКІ, ГАЛАСЫ

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

### 105. БАТЛЕЙКА

І лыпалі жвава,
Дзівіліся вейкі.
Ішла не забава –
Эпоха батлейкі,
Яе шчодры час
На зубастыя байкі.
Ох, цешылі нас
Мітуслівыя лялькі!

Свет бралі замахам
Нахабнага горла.
Якім толькі пахам
З-за шырмы не пёрла!
Там, хмелем свянцоныя,
Вабілі стравы –
Яўрэя карчомнага
Добрыя справы.

Ці, коней гурман,
Грэб падатак грашовы
З мядзведзем цыган
У галдзе кірамшовай.
А пана хвасталі
Выдатныя розгі
(Галоўным на балі
Быў спрыт мужыкоўскі.)

З прыстанку дарожнага,
Здзеку загуба,
Прыходзіў да кожнага
Несцерка любы.
Сам блазан прыкметны –
Крамольнік і злодзей.
Каго, прайдзісвет, ён
За нос не праводзіў?

За злую распусту
Прычэсваў, бывала.
Смяялася людства.
Супярэжывала.
Як бы ў забыцці
Доўгай мары дзіцячай.
Хай там, у жыцці
І было ўсё іначай.

У ладу старога
Вядома, хто гожы...
Але – не ад Бога
Шалёныя грошы.
У іх – свае шалі.
Нядолі ж знаёмцы
Па-свойму гулялі,
Глядзелі на сонца.

Было й ад адзінага
Месцейка ярка
У шыры радзімай.
Склікаючы зранку
Усмешкі сустрэцца
Ля любае скрынкі,
Спявалі для сэрца
Цымбалы і скрыпкі.

### 106. АПОШНЯЯ КРОПЛЯ.

Жыць вольна б ля чыстай крыніцы,
Спяваць бясклапотныя песні...
Ды вось арандатары-хціўцы
Па скуру дзіравую лезлі.

І што мы ім гэтак здаліся?
Чым толькі далей – тым гаротней,
А цэлыя ўсе б засталіся,
Каб пан наш прыехаў з Гародні.

Не, толькі цяжэла ад думак,
Што хуткай гразілі магілай,
Пакуль не прыйшоў паратунак
Для нас з добрым войтам Вашчылам.

Нарэшце, пашчасціла светла,
Знайшоўся жа хлопец адчайны,
Гарою стаяў за суседа
Наглядчык такі незвычайны.

Рабіў з грамадою старанна,
Ніколі не быў падпявалай,
Але, чулі, ездзіў да пана
Ды скардзіўся на абіралаў.

А тыя спякліся ад шалу,
Забылі зусім пра сумленне.
Апошняя кропелька ўпала,
Зламаліся шалі цярпення.

У дробязі лепей не лезці –
Надоўга зачнецца паданне.
У Крычаўскім старастве ўрэшце
Разжыліся ўладай сяляне.

Свабоды натхнёная ніва
Цвіла недарэмна багата,
У справы яе справядлівай
Кіпучы быў арганізатар.

Але не выходзілі з меркі,
Ў бакі не разгойдвалі хвалі,
Ушчэнт разбівалі талеркі
Адно самавар не чапалі.

Чакала і ліха жа недзе...
Ды так суцішалі бязверцаў:
Вось пан наш лагодны прыедзе,
Дык добра ва ўсім разбярэцца.

Штодзень зранку трызнілі хаты, –
Імчыцца яго калясніца.
Аж войска прыслаў і гарматы –
З мяцежным галганам судзіцца.

Наладзілі ж хлопам пагром!
Ах, судддзяў, шкада, не падмазалі –
Няшчасныя праўды рэзон,
Калы асядлаўшы, даказвалі.

Балюча кругом і пакутна
Кідалася лютасць без жалю.
Карпач дык мядзведжае футра
Прыдбаў для сабачага балю.

Імклівая пошасць набегла,
Спаўна адплаціла адпетым.
У памяці мусіла й пекла
Калісь саступіць перад гэтым.

Вось толькі Вашчылу праклятага
Пятля пакарання праспала.
Ў само іншазем'е прыдатнае
Мяцежнік даў хуткага драла.

У пастцы турэмных гадзін
Гніў у маскалёў на пастоі.
Усё ўспамінаў аб адным
Крутым палыновым настоі.

За тоўсыя трапіўшы краты
У пашчу да следчых увішніх,
Не ведаў ён – чым вінаваты
Быў перад людзьмі і Ўсявышнім.

І голас ахрыплы, нягожы
Даносіўся з каменнай клеці.
Ужо задыхаўся: - О, Божа,
Ці ёсць ты, сумленны, на свеце?

Не зведаў патолі сабе
У вуснаў апошняй пакуце.
Збялелымі, толькі й паспеў
Ледзь выціснуць: - Браце, даруйце...

### 107. РАДЗІВІЛЫ.

Грамады старажылы,
Як гарматы літыя,
Скуль яны, Радзівілы,
З'явіліся тыя?

Ох, было паважанымі
Усяго панакручана...
Прагрымелі, дзяржаўныя,
Грамадзяне бліскучыя.

Знала славу працяглую
Сіла як бы сталёвая –
Воз магутнейшы цяглавы,
Шляхты костка хрыбтовая.

Усе – людзі імпэтныя,
Княства дзеячы ўпартыя.
А "Пагоня" ў іх ведала
Адмысловую гвардыю.

Ганарылася вузамі
Памяць усемагутная,



Не збяднелая вуснамі
На імёны славутыя.

Колькі гучных пастаў
Род прынёс суайчыннікам!
У Літвы храства
Не было большых чыннікаў.

Яшчэ гонару вартыя
Побач моды вяльможныя –
Галярэі, тэатры,
Палацы раскошныя.

Мелі таленты бляскам
Зоркі за субяседнікаў...
Ох, і пырскалі ж краскі
Прыгоннага кветніка!

У халупах, свяцёлках
Пачуцці дзяліліся:
Пракліналі саколікаў,
На герояў маліліся.

Лёс зрабіў раздарожнымі
Іх беларусамі.
Русь калісьці, варожая,
Паляшыцца змусіла.

Закруціла агнём
Яе пошасць вар'яцкая.
Баранілі свой дом
Ад бяды азіяцкае.

Час чырвоны, крывавы
Па іх залпамі грымнуў,
І па свеце род слаўны,
Лёс параскінуў!

### 108. АМАТАР.

Ранку спакайнейшая гадзіна
Думак не суцішыла вузла.
Неадступна вострым напамінам
Сцэна за заслонаю была.

Абуджала радаснае штосьці,
Паглынала цудам адкрыццё,
І неверагоднай прыгажосцю
Побач цвіў кавалачак жыцця.

З явай чуўся разам немагчыма
Яркі тлум чароўнай мітусні,
За сюжэтам вочы не сачылі –
Пэўна, разгубіліся зусім.

Хараства усходзіў пышны хорам,
Як адолеў ён сваю статую?
Брудную дзяўчынкаю заўчора
Дарымену ведалі вунь тую.

Мільгацела сціпла на сяўбе,
Свіняў суцішала шматгалоссе,
Не раскажа звязана і сабе,
Як [illegible]

Вось табе танцоры ды музыкі!...
Хто іх ведаў? І не знойдзеш слоў!
Быў сам пан аматарам вялікім
Казачных святочных галасоў.

Муз прыстанак, тройчы сэрцу мілы,
Зліўся з лёсам, як бы сам Парнас.
О, не для брыльянтавага пылу
Траціў процьму грошай кожны раз.

А чужыя вось краналі жарсці,
Іх высокі незвычайны хор.
З сонцамі Вівальдзі мілаваўся
Ён як сам мастак і рэжысёр.

Упіваўся слодыччу няволі,
Задуменны ў дзіўным насланні,
Не хапалі гэтак за жывое
Віны, самацветы-камяні.

Ачмурыла нечакана розум
Незабыўных рухаў варажба.
Перад ёй, як быцца, нецвяроза
Ледзьве не лунацікам ступаў.

Ды ўжо ведаў фантазёр затое:
Зразумеюць добра мудрацы,
Калі толькі гэта за спіною
Ўрэшце застанецца у канцы.

### 109. ВЫХАВАНЦЫ.

Лічыў сваіх вучняў
маэстра гарачы
ледзь не ідэальнымі.
Прызнаўся ён пану:
ніколі не бачыў
такіх і ў Італіі.

І гэта не дзесьці –

ў балеце!
Дастойна
старога аддзячылі.
Як бы акрылённыя, дзеці
выдатна і пелі,
і танчылі.

Ну чыстыя таленты проста!..
А хутка ўжо
за кулісамі
стаяць яму нават
зайздросна
наогул, зусім бескарыснаму.

Дзівіўся б
задаткам салідным,
ды ведаў усё
аб традыцыях,
якія ў моладзі спрытнай
былі ўжо раней рэпетыцыі.

Пад сонцам
прасторныя хвалі
набылі
іх святаў мелодыі.
Купаллі ім і наспявалі,
вяселлі –
накарагодзілі.

Кацілася ярка
ў вочы, ды звонку
ўлівалася з подыхам,
заводзіла
і ўздымала старонка
душу лясным шолахам.

Дарылі
распеўныя далі
ўсмешкі,
на шчасце надзеі.
Паўсюдна
свае хвалявалі
венецыі і калізеі.

Дык іншых
заблытала
з мэтай няведамай
дзіўная сіла.
Пачуцці іх сціплыя
музыкай гэтаю
ашаламіла...

*(Працяг у наступным нумары.)*

# Аляксей Шалахоўскі памятае

**(Юбілей ахвярніка)**



На стале ў мяне ляжыць падарунак ад юнака Аляксея Шалахоўскага – кніга Лідзіі Арабей "Стану песняй", якая пабачыла свет у серыі "Слава твая, Беларусь!" у далёкім 1977 годзе. тады яшчэ значная частка так званай беларускай эліты не гідзілася, не саромелася, не цуралася родных гукаў, і выходзіла на шмат болей кніг на беларускай, чым у сённяшнія дні так хвалёнай манкуртамі і мутантамі беларускай дзяржаўнасці, якая яшчэ лепш вынішчае беларушчыну, чым у сумнавядомыя 30-я гады XX стагоддзя. Найбольш сёння ідзе знішчэнне беларускіх школ – апошніх асяродкаў роднай мовы. На 5-й старонцы кнігі ёсць радкі з верша Цёткі:

На магіле ўзыду дубам,
Начну шаптаць братнім губам
Аб іх долі, аб свабодзе,
Стану песняй у народзе.

Дык хто з чынавенства сёння шэпча "братнім губам"?

Падарунак Аляксея – сына Леанідава вельмі беражна захоўваецца ў мяне, яна толіць маю натуру вялікай энергіяй турботных і карпатлівых адносінаў да роднай мовы, да якой я вельмі позна вярнуўся.

Калі ў адной з баранавіцкіх кнігарань нечакана для сябе пачуў беларускія гукі, дык адразу ж звярнуў сваю ўвагу на юнака ў чырвонай кашулі. Пры знаёмстве аказалася, што ён студэнт і навучаецца ў Беларускім дзяржаўным універсітэце на беларускамоўным аддзяленні гістарычнага факультэта (1993-1998). Спецыяліст у галіне гісторыі Беларусі XIX – XX стагоддзяў.

З таго часу і доўжыцца нашае знаёмства і нашая перапіска.

У дзень нашага першага знаёмства юнак Аляксей прачытаў верш нашага класіка Пімена Панчанкі "Аснова", з якога дасюль у маёй памяці сядзяць радкі:

Не забудзь кожны дзень
Сказаць такія словы:
Дзень добры,
Калі ласка,
Дзякую.
Не цурайся людзей,
Каб душа не знямела.
Помні: жыта дзядоў
Добра ў мэндліках спела.

Мы ў той дзень доўга размаўлялі і зноўку прышлі да П. Панчанкі да яго славутага верша:

А я журуся:
Мала ў Беларусі
Разумных гісторыкаў,
Якія любяць і ведаюць
Родную гісторыю.

Нарадзіўся Аляксей Шалахоўскі ў Менску: менянінам (так адзначаў упершыню жыхароў нашай сучаснай сталіцы першы нам вядомы летапіс) 8 снежня 1975 года ў сям'і, карані якой вядуць да беларусаў, рускіх, украінцаў і палякаў. На сталічным асфальце у чужамоўным асяродку усмактаў ён любоў да родных гукаў, цікаўнасць да гуманітарных навук, пачаў утрапёна займацца гульнямі ў шахматы. Скончыў школу і паступіў ва універсітэт. Але не засяродзіўся толькі на сваёй спецыяльнасці і яшчэ ў 1996 г. адолеў Курсы дыктараў і вядоўцаў тэлерадыёпраграмаў (кіраўнік Наталля Сцяжко).

У 1994 годзе Аляксей пачаў паспяхова друкавацца. І яго імя тады ўпершыню сустрэў у вельмі тады добрай і змястоўнай газеце "Молодёжный курьер", якая выходзіла ў Гародні.

Падчас асабістага знаёмства ў Баранавічах якраз і ўспомніў тыя яго публікацыі!. А потым нататкі юнака і яго артыкулы пачалі усё часцей і часцей з'яўляцца і ў іншых газетах, як, напрыклад, "Культура", "Сям'я", "Чырвоная змена", "Наша доля", "Беларуская маладзёжная", "Літаратура і мастацтва", "Краязнаўчая газета" ды інш., усяго ў каля 30 назвах газет адзначана імя А. Шалахоўскага. У полі зроку яго літаратура, культура, мастац-тва, краязнаўства, гісторыя музыка, славутыя людзі Беларусі ды шмат чаго і іншага цікавага і займальнага, канешне, тутака і спектаклі розных тэатраў (рэцэнзіі на іх).

Пасля сканчэння БДУ А. Шалахоўскі выкладае гісторыю, працуе малодшым навуковым супрацоўнікам, вучыцца ў аспірантуры і ... ідзе ў народ, каб спазнаць, чым ён жыве, уладкоўваецца ахоўнікам, робіць камендантам інтэрната. Працуе рабочым... І вучыцца далей – на аддзяленні журналістыкі ў Беларускім калегіюме, ідзе ў шэрагі ГА "ТБМ імя Францішака Скарыны" і становіцца яе актывістам. з 2004 года з'яўляецца старшынём суполкі "Гісторыя".

У 2000 годзе з'яўляецца першая публікацыя Аляксея, сына Леанідава, Шалахоўскага ў "Нашым слове", плённыя стасункі з гэтым выданнем доўжацца ў яго і па сённяшні дзень.

Зусім нядаўна Аляксей Леанідавіч парадаваў мяне тым, што ён: "... з'яўляецца адным з нямногіх на Беларусі інтэлігентаў у 5-м пакаленні, патомак рода Рэўтаў".

Яго прапрадзед Валяр'ян Рэўт валодаў невялічкім маёнткам Радун (пад Лепелем) і быў сваяком вядомага паэта XIX стагоддзя Вінцэнта Рэўта.

Да гэтага дадам, што Аляксандр Рыпінскі ўжо стварыў біяграфію Рэўта, а вось А. Шалахоўскі імкнецца напісаць вялікі нарыс пра блізкага прашчура.

Прадзед жа яго П. М. Мамойка (1889-1968) быў вядомым у свой час псіхіятрам, заснавальнікам Лепельскай псіхіятрычнай лякарні (ён скончыў Маскоўскі дзяржуніверсітэт).

Мне застаецца дадаць, што А. Шалахоўскі вельмі актыўны і дзейсны фігурант культурнага жыцця нашай краіны, бо мала якая падзея абыходзіцца без яго ўвагі, павагі, а потым і занатавання ў друку.

Год 2005 – ы юбілейны для Аляксея Леанідавіча. Дык пажадаем яму на нашай беларускай гукавай прасторы яшчэ больш здабыткаў, шчасця, здароўя, кіпені жыцця і творчасці!

*Міхась Маліноўскі, г. Баранавічы.*

# Крыжаванка "Адновім мову"

**Па гарызанталі:**

1. Князь Кукейнаса, цвердзі на Заходняй "Дзвіне, васал полацкага князя.
4. Народнае эпічнае апавяданне.
6. Давай каню не..., а сена з лугу (прык).
8. Інспектар.
9. Гаспадарчая пабудова для захоўвання зерня, мукі, прыпасаў.
11. Цэнтр адміністратыўнага раёна на Віцебшчыне, дзе ў гады Вялікай Айчыннай вайны быў моцны партызанскі рух.
13. Знак прыпынку.
14. Від ластаўкі.
16. Планка для нашэння на грудзях, ардэнаў, медаляў.
19. Маёмасць, якая не можа быць выкарыстана на прадпрыемстве і падлягае продажу, ліквідацыі.
20. Зіма - ......, лета – матачка (прык.).
22. Англійскі вучоны ў галіне радыётэхнікі і электратэхнікі. Вынаходзіў лампавы дэтэктар, удзельнічаў у ажыццяўленні першай радыёперадачы цераз Атлантыку.
25. Святыя ........ пакрываюць траву лістам, зямлю снегам, ваду мёдам, а дзяўчат шлюбным чэпкам (прык.).
27. Вадзяная травяністая расліна.
28. Дарэвалюцыйная назва аднаго з раёнаў г. Менска, цяпер раён вуліцы Чырвонаармейскай
29. Спецыяліст па вырабцы скуры
31. Куст або невялікае дрэва з сочнымі смачнымі пладамі. Расце на поўдні: Каўказ, Сярэдняя Азія.
32. Машына з ручным прывадам для веяння абмалочанага збожжа.
33. Дробны дождж, смуга.
34. 1)Гатунак радыскі. 2)У паэзіі трубадураў – ранішняя песня.

**Па вертыкалі:**

1. Малая радзіма Янкі Купалы.
2. Спагадлівасць, спачуванне.
3. Дзень тыдня.
4. Прыйшоў трэцці .... – бяры рукавіцы ў запас (прык.)
5. Група слоў, аб'яднанных па сэнсу.
6. Аптавы скупшчык жывёлы і розных прыпасаў (мяса, рыбы) для перапродажу (заст.).
7. Назва ўсходнеславянскіх плямён у 4-7 стаг., ужывалася візантыйскімі пісьменнікамі 6-7 стагоддзяў.
10. Беларускі этнограф, фальклярыст і краязнавец другой паловы 19-га стагоддзя. Даследавала побыт, матэрыяльную культуру, абрады сялян Палесся.
12. Надбудаваная частка якога-небудзь збудавання.
14. Аднагадовая травяністая расліна, лубяное валакно якой ужываецца для вырабу тэкстыльнай сыравіны.
15. Бахчавая расліна сямейства гарбузовых.
17. Вечназялёны куст з белымі ягадкамі, які расце паразітам на дрэвах.
18. 1) Від хронікі (кніж) ці 2) Летапіс.
21. Моцны паўночна-заходні вецер на поўдні Францыі.
23. Пеўчая птушка сямейства вераб'ёвых.
24. Афіцыйны заканадаўчы дакумент у Вялікім Княстве Літоўскім.
25. Неядомы атрутны грыб.
26. Філолаг-славіст, заснавальнік беларусага мовазнаўства і літаратуразнаўства, этнограф, палеограф. Удзельнічаў у распрацоўцы статута Інбелкульта.
28. ....... любіць брусок і сала кусок (прык)
30. Іншая ... горш, чым здрада (прык).



**Рэдактар Станіслаў Суднік**

**Заснавальнік:** ТБМ імя Францішка Скарыны.
**Пасведчанне аб рэгістрацыі:** № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
**Адрас рэдакцыі:** 220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
**Адрас для паштовых адпраўленняў:** 231282, г. Ліда-2, п/с 7.
**E-mail:** naszaslowa@tut.by
**http://tbm.org.by/ns/**

**Рэдакцыйная калегія:**
Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Валер Задаля, Вольга Іпатава, Васіль Ліцьвінка, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 5. 12. 2005 г. у 11.30. Замова № 2135.
Аб'ём 3 друкаваныя аркушы. Наклад 2000 асобнікаў.
**Падпісны індэкс:** 63865.
**Кошт падпіскі:** 1 мес.- 1270 руб., 3 мес.- 3810 руб.
**Кошт у розніцу:** па дамоўленасці.